Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 19 (4768) 16 мая 2014 г.

## Пункцірам

✔ У Мінску працягваецца Чэмпіянат свету па хакеі. «Мы ішлі да гэтай падзеі пяць гадоў. Чэмпіянат стаў сапраўды найбуйнейшым нацыянальным праектам. У яго падрыхтоўцы і рэалізацыі актыўна ўдзельнічала ўся наша краіна», — падкрэсліў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падчас цырымоніі адкрыцця. На нядаўняй сустрэчы з замежнымі дыпламатамі Кіраўнік дзяржавы выказаў меркаванне, што правядзенне Чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску паспрыяе фарміраванню ў замежных грамадзян уласнага непрадузятага ўяўлення пра Беларусь.

✔ Урад зацвердзіў склад аргкамітэта па правядзенні Міжнароднага фестывалю этнакультурных традыцый «Кліч Палесся». Старшынёй прызначаны віцэ-прэм'ер Міхаіл Русы. Свята, якое праходзіць раз на два гады, збярэ гасцей у вёсцы Ляскавічы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. Арганізатары фэсту — Міністэрства інфармацыі і Міністэрства культуры, Брэсцкі і Гомельскі аблвыканкамы, Нацыянальны парк «Прыпяцкі», Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, Белаграпрамбанк.

✔ Малады саліст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Павел Пятроў атрымаў залатую ўзнагароду на Першых адкрытых маладзёжных Еўрапейскіх Дэльфійскіх гульнях у Валгаградзе. Гэты ж выканаўца разам з Віктарам Мендзелевым стаў лаўрэатам II Адкрытага конкурсу імя Станіслава Манюшкі «Убельская ластаўка» для студэнтаў-вакалістаў вышэйшых музычных навучальных устаноў.

✔ Мастацкая галерэя Аляксея Кузьміча адкрыецца на радзіме вядомага беларускага жывапісца, у вёсцы Махро Іванаўскага раёна, на базе мясцовага Дома культуры. Прапанова пра стварэнне галерэі паступіла ад сям'і мастака, гатовай перадаць каля 150 палотнаў жывапісца. Акрамя карцін у экспазіцыі будуць прадстаўленыя асабістыя рэчы Аляксея Кузьміча.

✔ 17 — 18 мая Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы з 14.00 запрашае на праграму «КупалаLAND», прысвечаную Міжнароднаму дню музеяў і міжнароднай акцыі «Ноч музеяў». 19 мая а 20-й гадзіне адбудзецца канцэрт класічнай музыкі. 22 мая з 19.00 да 24.00 — культурная акцыя «Ноч літаратуры». Замежным наведвальнікам прапануюць паўдзельнічаць у акцыі «Чытаем Купалу разам» і прачытаць творы Песняра на іншых мовах свету. Сёння ж а 15-й гадзіне Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Вязынка» запрашае на адкрыццё выстаўкі «Зямля прадзедаў маіх», дзе будуць прадстаўлены мастацкія работы, цацкі, узоры традыцыйных рамёстваў. Наведвальнікаў чакаюць сюрпрызы, латарэя і майстар-класы.

✔ У Музеі гісторыі горада Мінска ў Ноч музеяў стартуе выставачны праект «Back in BSSR / Зноў у БССР». Тут можна будзе ўбачыць калекцыю рарытэтных плакатаў 1940 — 1980-х гадоў, артэфакты матэрыяльнай культуры савецкай эпохі: узоры тэхнікі, прадметы побыту, творы мастацтва. Экспазіцыя складзена пры ўдзеле Беларускага саюза дызайнераў.

**Падрыхтавала**
**Іна ЛАЗАРАВА**



# Карнавал у Верхнім горадзе

*Фота БелТА*



Клоўны і мімы, «жывыя статуі» і блазны, рыцарскія баі, карнавальна-тэатральнае шэсце — усё гэта II Мінскі форум вулічных тэатраў, які адбыўся ў мінулыя выхадныя на вуліцах Верхняга горада.

Гістарычны цэнтр Мінска адкрыты для пешаходаў. На працягу ўсяго музычна-турыстычнага сезона, да 14 верасня, менавіта тут будуць адбывацца выступленні артыстаў, музыкантаў і паэтаў. Пачатак гэтаму і паклаў Другі Мінскі форум вулічных тэатраў. А першы прайшоў 14 і 15 верасня 2013 года на пешаходнай зоне вуліцы Карла Маркса, дзе гледачы змаглі ўбачыць каля трыццаці спектакляў самых розных жанраў, інтэрактыўны і пластычны тэатры, буфанаду, клаўнаду, гістарычную рэканструкцыю. Калі летась форум пазначыў завяршэнне сезона, то сёлета — яго адкрыццё.

Тысячы юнакоў, дзяўчат, бацькоў, дзяцей і нават хакейных фанатаў прыйшлі атрымаць асалоду ад выступленняў вулічных артыстаў. Калектывы з Беларусі, Украіны, Польшчы, Расіі, Славеніі, Егіпта і Кубы на пяці пляцоўках гістарычнага цэнтра Мінска за два дні далі больш як 20 спектакляў.

Тэатр *KUD Ljud* (Славенія), ужо вядомы беларускаму гледачу з праекта *Invasion* (ружовыя іншапланецяне на фестывалях у Брэсце, Магілёве і Мінску), гэтым разам запрасіў мінчан і гасцей сталіцы на гадзінную экскурсію па ўнікальнай галерэі пад адкрытым небам, дзе экспанатамі сталі творы мастацтва. Спектакль *Streetwalker Gallery* даў магчымасць адкрыць для сябе нешта новае ў старым Мінску, а таксама паўдзельнічаць у імправізаваным перформансе.

Пантамімічны спектакль «Уварванне», які паказвалі на цырымоніі адкрыцця Алімпіяды ў Сочы, прывёз у беларускую сталіцу Тульскі муніцыпальны тэатр рускай драмы «Эрмітаж». Расійскія акцёры ў вобразах прышэльцаў з іншай планеты спрабавалі наладзіць кантакт з зямлянамі. Польскі тэатр з Кракава *Nikoli* звычайна працуе з пластыкай, пантамімай, камедыяй дэль артэ, імправізацыяй. Яго спектакль *Maruczella* перанёс гледачоў у атмасферу нямога кіно: у пантамімічную рамантычную гісторыю мінулага. Украінскі тэатр гістарычнага танца *Al'entrada* прывёз у Мінск спектакль «Вясёлая Каралева», каб паказаць публіцы рэканструкцыю сярэднявечнага вулічнага тэатра. Цэлы «Карнавальчык» прыехаў да нас з Санкт-Пецярбурга і прапанаваў сумеснае «Гулянне-любаванне» па горадзе. Яшчэ адзін тэатр — *Tormashki* з Пецярбурга. Гэтая каманда блазнаў не дала ніводнаму гледачу сысці без усмешкі. З паўночнай сталіцы Расіі прыехаў і тэатр «Сё». У сваім спектаклі «Калі ты не зомбі...» акцёры сумясцілі хадулі, танцы і дэтэктыўна-любоўную гісторыю барона Людовіка 114-га. Тэатр-студыя глухіх «Шостае пачуццё» Жана Мельнікава паказаў «Гэты вар'яцка-разумны Свет» і якое «Жыццё прыгожае», а таксама запрасіў на «Прагулку для недушэўна хворых». Калектыў з Магілёва называецца так не выпадкова: большасць артыстаў — глухія і глуханямыя. Кожная іх праца — правакацыя гледачоў на нечаканыя ўчынкі.

Заканчэнне чытайце на стар. 16

***У Саюзе пісьменнікаў Беларусі***

# Творцы рыхтуюцца…

**На чарговым пасяджэнні Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі адной з асноўных тэм стала падрыхтоўка да святкавання 80-годдзя ўтварэння арганізацыі.**

Прынамсі, было вырашана правесці ў чэрвені 2014 года ўрачысты сход, на які мяркуецца запрасіць кіраўніцтва краіны, прадстаўнікоў дзяржаўных устаноў Беларусі і гасцей-творцаў з-за мяжы. На разгляд Прэзідыума былі прапанаваныя юбілейныя ўзнагароды для членаў саюза.

Падчас сустрэчы літаратары абмеркавалі вынікі конкурсаў, прысвечаных угодкам Вялікай Перамогі, яднанню народаў Беларусі і Расіі, конкурсу маладых творцаў, а таксама літаратурнага конкурсу СПБ і Беларускай рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальнікаў. Было падкрэслена, што большасць маладых пераможцаў становяцца кандыдатамі на выданне ўласнай кнігі і ўступленне ў пісьменніцкую арганізацыю. Дарэчы, падчас Прэзідыума былі прынятыя ў члены саюза яшчэ дзевяць творцаў з Мінска, Мінскай і Магілёўскай абласцей. Больш падрабязна пра іх можна будзе даведацца ў наступных нумарах «ЛіМа».

Члены Прэзідыума абмеркавалі памер матэрыяльнай дапамогі Мінскаму гарадскому і абласным аддзяленням, пісьменнікам-ветэранам ВАВ і ветэранам працы, зацвердзілі аргкамітэт рэспубліканскага конкурсу «Лепшы твор 2013 года». Акрамя таго, са складу Прэзідыума СПБ быў выключаны былы старшыня Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду Васіль Дадалка.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

«ЛіМ» запрашае сваіх чытачоў падзяліцца творчымі ўспамінамі з нагоды 80-годдзя Саюза пісьменнікаў Беларусі. Артыкулы і фотаматэрыялы накіроўвайце ў рэдакцыю ці на электронную пошту *lim_new@mail.ru* з пазнакай «СПБ-80».

# Акопнай праўды моц

Ужо 15 гадоў, як у жыцці масквічкі Ніны Дзябольскай, педагога і перакладчыка, маршрут «Масква — Мінск» стаў асабліва жаданым і шматкроць адмераным. У сталіцы Беларусі яе заўсёды чакаюць музейныя супрацоўнікі, паэты, выдаўцы. Трывалае знаёмства завязалася дзякуючы даўнім сяброўскім сувязям беларускага паэта Максіма Багдановіча і рускага філосафа Дзіядора Дзябольскага, якому Н. Дзябольская даводзіцца пляменніцай.

Сёлетні яе прыезд у Мінск быў звязаны з асабліва ўрачыстай місіяй удавы ветэрана Вялікай Айчыннай вайны — пасмяротным выданнем франтавога дзённіка мужа. Запісы шмат гадоў таму сам аўтар планаваў выдаць у часопісе «Новый мир», які ўзначальваў А. Твардоўскі. Са зменай галоўнага рэдактара рукапіс «акопнай праўды» ў чыстым, дакументальным выглядзе лёг у стол. Нядаўна ён пабачыў свет у Мінску, а знаёмствы паважанай госці з Масквы, што падрыхтавала рукапіс да выдання, пашырыліся на студэнцкую аўдыторыю.

Да Дня Перамогі кафедрай беларускай філалогіі БДТУ была арганізавана прэзентацыя кнігі Уладзіміра Каменева «Дайце сувязь! Франтавыя запіскі 1942 года» (на рускай мове). У дзённіку афіцэра-сувязіста паказаны пачатак наступлення Чырвонай Арміі на невялікім участку Паўднёва-Заходняга фронту ў снежні 1941 — красавіку 1942 года. Выданне пасвойму ўнікальнае і, можна сказаць, беспрэцэдэнтнае: на передавой лініі баявых дзеянняў было катэгарычна забаронена рабіць якія-небудзь запісы, парушэнне загаду адназначна пагражала суровым пакараннем ваеннага часу.



*Ніна Дзябольская (трэцяя злева) сярод ганаровых гасцей.*

Для Беларусі тэма Вялікай Айчыннай, увасобленая ў розных відах творчай дзейнасці, найперш у мастацкай літаратуры, стала своеасаблівым нацыянальным эпасам. Яе стваральнікі — непасрэдныя ўдзельнікі і сведкі падзей. Але так ці інакш у аснове творчасці, вядома, *ляжыць мастацкі вымысел*, а кніга У. Каменева дэманструе акопную праўду ў яе *дакументальнай першароднасці* — у гэтым яе жыццёвая моц і чысціня народжанай эмоцыі.

Уласна выкшталцонасць паэтычнага твора, прадстаўленага ў двухмоўным гучанні (беларускім і французскім), напоўніцу была прадэманстравана на другой частцы імпрэзы (перакладчыцкай), дзякуючы чаму мерапрыемства набыло фармат класічнай літаратурнай падвойнасці — тэмы вайны і міру.

Н. Дзябольская прафесійна займаецца перакладам беларускай паэзіі на французскую мову. На яе творчым рахунку зборнікі «У краіне паэтаў» (2011, на беларускай і французскай мовах), «Паэты рускія, беларускія і польскія» (2013, на французскай мове). Абедзве кнігі ўбачылі свет у мінскім выдавецтве В. Хурсіка, а ў сценах БДТУ адбылося іх чытацкае «хрышчэнне». Некаторыя вершы былі прадэкламаваны студэнтамі (па-беларуску) і перакладчыцай (па-французску).

Годную падтрымку мерапрыемству забяспечылі выдавец Віктар Хурсік, паэтэса Вера Буланда, паэт, перакладчык, даследчык беларускіх сувязей з замежнымі краінамі Сяргей Панізнік.

Студэнты ў падарунак атрымалі кнігі гасцей з дарчымі подпісамі, бібліятэка БДТУ папоўнілася некалькімі рарытэтнымі выданнямі.

**Мікола ТРУС**

# Пра Беларусь раскажуць паштоўкі

У час Чэмпіянату свету па хакеі на Мінск-Арэне працуе выстаўка, якая знаёміць з аўтарскім праектам калекцыянера старых паштовак Уладзіміра Ліхадзедава «У пошуках страчанага». Арганізатары экспазіцыі — Міністэрства інфармацыі краіны, газета «СБ. Беларусь сегодня» і Выдавецкі дом «Звязда».

Госці змогуць пазнаёміцца з гісторыяй нашай краіны праз рэпрадукцыі старых паштовак і фотаздымкаў. У межах праекта наведвальнікам Мінск-Арэны прадстаўлены дзве выстаўкі — «Мінск. Падарожжа ў часе» і «Імгненні Першай сусветнай вайны». Сёння ў калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава знаходзіцца больш як 30 тысяч старых паштовак, якія адлюстроўваюць самыя розныя моманты з гісторыі краіны, паказваюць лёсы нашых суайчыннікаў. Велізарны масіў збору распавядае пра Першую сусветную, значная частка падзей прайшла якраз на тэрыторыі Беларусі. І цяпер, калі набліжаецца 100-годдзе з дня пачатку гэтай вайны, асабліва важна данесці свету многія невядомыя дэталі. Чэмпіянат свету па хакеі — добрая нагода ў звязку з гэтым клопатам.

— Угледзаючыся ў старыя паштоўкі, — каменціруе адкрыццё выставак першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, — адчуваеш подых розных часін, болей уважліва пачынаеш асэнсоўваць сацыяльныя, палітычныя аспекты жыцця, думаеш пра тое, як няпроста людзям было сумясціць свае памкненні, сваё асабістае жыццё з глабальным перабудаваннем свету. Мне здаецца, што Беларусі пашчасціла на такога самаадданага служку культуры, гістарычнага асветніцтва, якім з'яўляецца лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» Уладзімір Аляксеевіч Ліхадзедаў. Паштоўкі з яго збораў шмат чаму вучаць у асэнсаванні лёсу Айчыны ў розных яго вымярэннях.

Дарэчы, нядаўна Выдавецкі дом «Звязда» выпусціў альбом са старымі паштоўкамі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава «Падарожжа ў часе». Гэтая кніга працягвае міжвыдавецкую кніжную серыю «У пошуках страчанага».

**Сяргей ТУРЫНСКІ**

# Чароўная ноч у Доме Коласа

З захапляльнай праграмай «Святло ў акне» пад дэвізам «Мы расчынім вам дзверы гасцінна…» Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа заўтра далучыцца да міжнароднай акцыі «Музейная ноч».

Будуць прадстаўлены не толькі традыцыйныя формы музейнай дзейнасці — вернісажы, але і канцэрты, відэапаказы, арт-шоу і перформансы. «Музейная ноч» пройдзе пад сімвалічнай назвай «Святло ў акне».

Пры жыцці Якуба Коласа дзверы дома заўжды былі гасцінна расчынены для ўсіх добрых людзей. А калі на зямлю апускалася ноч і на мінскіх вуліцах панаваў змрок, у акне яго кабінета загаралася святло. Святло ў акне паэта прыцягвае і нас. Яно загараецца толькі раз на год — у таямнічую музейную ноч.

У год гасціннасці музей Якуба Коласа запрашае здзейсніць займальнае віртуальнае падарожжа ў краіны Еўропы і Азіі. У праграме таксама прэзентацыя гукавых інтэрактыўных зон у мемарыяльнай частцы музея (вялікая гасцёўня, кабінет Песняра) — у 18.30 — 19.00, музейны праект «Творчыя сем'і ў доме Коласа» (сустрэча з кітайскім паэтам Лі Цзо і яго сям'ёй) — у 19.00 — 21.00, напісанне запаветнага жадання пяром Песняра — у 21.00, частаванне гарбатай з лекавых траў з радзімы паэта, беларускія народныя песні, танцы і гульні, майстар-клас па арыгамі, выступленні ўдзельнікаў студыі індыйскага танца «Наваратна» ды інш.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Купала ЯК дэндзі

Мы ведаем знакамітых пісьменнікаў па іх светапоглядзе, класічных творах, галоўных фактах біяграфіі. Прыгадаць характар, схільнасці, звычкі вядомых беларускіх аўтараў — справа больш праблематычная. Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы прапануе паглядзець на пісьменнікаў як на людзей, адметных індывідуальным стылем не толькі ў літаратурных творах, але і ў адзенні.

8 мая ў музеі адбылося адкрыццё выстаўкі «Будзь ЯК», дзе прадстаўлены фатаграфіі і мемарыяльныя рэчы Янкі Купалы — прадметы адзення, цікавыя аксесуары. Супрацоўнікі музея паспрабавалі адказаць на пытанне многіх наведвальнікаў: «Якім вядомы паэт быў у жыцці?» Таму галоўныя экспанаты выстаўкі — англійскі касцюм Купалы, яго футра, гальштукі, гадзіннік. Сучаснікі згадвалі паэта як чалавека зграбнага, хударлявага — і сапраўды, каўняры Купалавых кашуль не сышліся на музейных манекенах.

З аднаго боку, «Будзь ЯК» — рэтраспекцыя гарадской моды першай паловы XX стагоддзя: панаванне англійскага стылю, элементы ваеннай формы ў паўсядзённым адзенні пасля Першай сусветнай вайны, пралетарская мода, класічны гарнітур, запінкі з танкамі… З іншага боку, экспазіцыя прэзентуе Купалу як дэндзі, чалавека, які любіў і ўмеў прыгожа апранацца. Добры густ Купалы, далікатнасць і годнасць у абыходжанні былі ў пэўнай ступені абумоўлены яго шляхецкім паходжаннем. Але побач з класічным гарнітурам у гардэробе паэта знайшлося месца для вышыванай кашулі, тканых на ніту паясоў і гальштука, якія ён арганічна спалучаў са звычайным касцюмам. У час станаўлення ідэі беларускай дзяржаўнасці традыцыйная народная вопратка з'яўлялася адным з маркераў нацыянальнай ідэнтычнасці.

На адкрыцці выстаўкі слова мела кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтва Людміла Дамнянкова, якая адзначыла актуальнасць вывучэння гарадской культуры канца XIX — пачатку XX стагоддзя. «Захавалася шмат фотаздымкаў, і добра відаць, што жыхары тагачасных беларускіх гарадоў аддавалі перавагу не толькі асобным відам касцюмаў, але і пэўным маркам, часта еўрапейскім. Гэта сведчыць пра тое, што еўрапейская прастора была для нас не закрытай, а натуральнай і арганічнай. Адзенне, моднае ў Еўропе, насілі і тут, хаця многае залежала ад сацыяльнага ўзроўню… Мы звычайна разважаем пра высокае, але гадзіннік, пінжак, насоўка — гэта штрыхі, патрэбныя для гістарычнай цэласнасці, якія дапамагаюць убачыць культуру ў дэталях».

Цікава, што ў фондах Дзяржаўнага літаратурнага музея захоўваецца вялікія калекцыі адзення розных пісьменнікаў. Выстаўка, прысвечаная гарадской модзе і густу творчай інтэлігенцыі, была б таксама незвычайнай падзеяй у шэрагу разнастайных музейных праектаў.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Ад музея да кавярні

Незабыўныя ўражанні прывезла з міжнароднага свята паэзіі, якое традыцыйна, ужо ў чатырнаццаты раз, ладзілася ў Варшаве ў пачатку красавіка ЮНЕСКА, намеснік старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Любоў Красеўская.

Берасцейскіх паэтаў запрасіў Культурны Цэнтр Беларусі ў Варшаве і яго кіраўнік Эдуард Швайко. Дарэчы, гэта далёка не першая падобнага кшталту паездка літаратараў Брэсцкай вобласці ў суседнюю Польшчу, якія ўжо шмат гадоў запар забяспечае цэнтр.

Свята доўжылася тыдзень. Прайшоў вечар паэзіі ў Зялёнай зале Дома Палоніі, а таксама прэзентацыі вершаў, літаратурныя ўспаміны, канцэрты, іншыя мерапрыемствы ў самых розных установах — ад музеяў да кавярняў. Была прэзентавана і кніга перакладаў на польскую мову ўдзельнікаў паэтычнага фэсту з розных краін свету.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

# Кніжныя вандроўкі

**У малой зале Палаца культуры г. Маладзечна адбылася прэзентацыя альманаха «Міншчына літаратурная», які нядаўна пабачыў свет у РВУ «Выдавецкі дом «Звязда». Арганізатары мерапрыемства — Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і літаратурнае аб'яднанне «Агмень».**

На Міншчыне нарадзілася шмат таленавітых людзей: прынамсі, у альманаху сабраны творы некалькіх дзясяткаў аўтараў. Хтосьці з іх працуе ў галіне мастацкай прозы, хтосьці піша вершы, нехта займаецца гістарычнай публіцыстыкай. А ёсць і тыя, хто працуе ў некалькіх жанрах. Асноўная мэта выдання — прадставіць чытачу сённяшняе літаратурнае жыццё на Міншчыне. Бо ад пісьменніка ў многім залежыць, якім убачаць наш час наступныя пакаленні.

Перад гледачамі выступілі пісьменнікі Таццяна Атрошанка, Рагнед Малахоўскі, Дзмітрый Пятровіч, Святлана Быкава, Аляксандр Хазянін, члены літаб'яднання «Агмень» Валерый Хіхіч і Сяргей Томкавіч, а таксама маладая паэтэса з Валожына Аксана Мітрошчанкава. Прэзентацыю аздобілі выступленні ўзорнай дзіцячай эстраднай студыі «Спяваем разам», хору ДМШ «Родны кут», трыа «Фіеста» і спевака Андрэя Мікульчыка.

Павіншаваць літаратараў Міншчыны з выхадам кнігі завіталі начальнік аддзела па ідэалагічнай рабоце, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама Аляксандр Рамановіч, загадчык сектара культуры аддзела Тамара Дудзіч, дырэктар Палаца культуры г. Маладзечна, член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Святлана Сарока.




Выпуск альманаха «Міншчына літаратурная» плануецца зрабіць рэгулярным.

**Людміла ГАТАВІЦКАЯ**

# Пачынаў з газеты «За калгасы»

У сёлетнім маі — 100-годдзе з дня нараджэння паэта, публіцыста, перакладчыка Антона Бялевіча. Нарадзіўся ён 14 мая 1914 года ў вёсцы Дуброўка Уздзенскага раёна. А журналісцкая біяграфія ў даваенныя гады была звязана з працай у пухавіцкай раённай газеце «За калгасы».

Антон Бялевіч працаваў у рэдакцыі «раёнкі» адказным сакратаром. Бойкае пяро не давала спакою руплівому журналісту, таленавітаму пачынаючаму паэту. Ён часта выязджаў за межы Мар'іной Горкі, добра ведаў многія пухавіцкія вёскі. Краявіды мар'інагорскіх ваколіц, панадсвіслацкія, панадпцічанскія прасторы спрыялі творчаму натхненню, падказвалі сюжэты, вобразы. І шмат чым нагадвалі блізкую да пухавіцкага краю Уздзеншчыну. Любіў бываць малады журналіст на памежжы Пухавіцкага і Асіповіцкага раёнаў, у Тальцы. Бо ведаў, што кожнае лета сюды на адпачынак прыязджае са сваёй сям'ёю Якуб Колас. У 1970-я гады Антон Бялевіч апіша першую сустрэчу з класікам айчыннай літаратуры такім чынам: «А было гэта так: ад Пухавіцкай раённай газеты, яшчэ ў пачатку трыццатых гадоў, паехаў я ў калгасы Талькаўскага сельсавета. Быў спякотны летні дзень. Пайшоў да Свіслачы — паплёскацца. Бачу — сядзіць на беразе пад ракітавым кустом нейкі дзядзька, вудзіць рыбу. Прыйшоў на бераг і мой знаёмы аграном з калгаса. Мы з аграномам пачынаем раіцца, дзе лепш зайсці ў раку, а дзядзька рукою махае нам: далей адыдзіцеся, не палохайце рыбу…

От яшчэ! Плюхнуўся я ў ваду. Дзядзька падняўся, зматаў вудачкі.

— Ай, нядобра, — нахмурыўся аграном.

— А што?

— А тое самае: Коласаву рыбу ты напалохаў, разагнаў…

— От яшчэ! Не выдумляй.

— Я праўду кажу: Якуб Колас гэтую мясціну аблюбаваў…

— Чакай! — перапыняю таварыша. — Дык гэта Якуб Колас быў?!

— Ён. Не паспеў цябе папярэдзіць…

Веру і не веру! Які ж гэта Колас? Я ж думаў пра яго як пра дзівосная чараўніка, як пра казачнага асілка, а ён — звычайны чалавек, у нейкім аблавухім капелюшы, басаногі…

А таварыш хітравата ўсміхаецца, кажа:

— Рыбакі ў камашах і макінтошах не ходзяць на раку…»

Сапраўднае знаёмства з Якубам Коласам у Антона Пятровіча адбылося ўжо шмат пазней. А ў 1939 годзе Бялевіча звольнілі з рэдакцыі газеты «За калгасы». Якраз тады ледзьве не ўсю рэдакцыю прыпісалі да «ворагаў народа». На шчасце, горшага з паэтам не здарылася. З часам уладкаваўся ў «Чырвоную змену», пазней — у «Звязду».

Мастак слова шмат сіл і стараннаў надаў перакладчыцкай рабоце: дзякуючы яго напружанай рабоце па-беларуску загучалі вершы ўкраінскіх паэтаў А. Юшчанкі, М. Бажана, А. Малышкі, І. Няходы, паэма Аляксандра Твардоўскага «За далллю — даль». Імем Антона Бялевіча названа вуліца ва Уздзе. 100-годдзе паэта — самы час ушанаваць яго памяць і на Пухавіччыне.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Зачараваныя Максімам

Па-над белым пухам вішняў лунае нешта светлае, няўлоўна-імпрэсіяністычнае… Пануе настрой, які так трапна перадаў у вершы Максім Багдановіч. І менавіта ў веснавы час паэт пайшоў з жыцця. Такім чынам, нагод прысвяціць майскую «Маладосць» беларускаму класіку стае.

«Маладосць» перайшла з Багдановічам на «ты», наблізіўшы яго да чытачоў. Матэрыялы нумара, прысвечаныя паэту, пададзены пад загалоўкам «Зачараваныя Максам».

Без вершаў-прысвячэнняў не абышлося і цяпер. Лірычнымі ноткамі прасякнуты таксама матэрыял, зроблены на падставе вынікаў конкурсу эсэ «Мой Максім Багдановіч». Творы пераможцаў чытайце ў «Маладосці»: наіўны, свежы погляд сучасных школьнікаў на асобу паэта.

Ад узнёслых усхваленняў ды прызнанняў у каханні пераходзім да сур'ёзнага даследчыцкага матэрыялу. Найперш гэта шэраг артыкулаў супрацоўнікаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Таццяна Шэляговіч, Марына Запартыка, Ірына Шорац, Міхась Бараноўскі ды Ірына Мышкавец раскрываюць некаторыя сямейныя таямніцы паэта, распавядуць пра пошук яго апошняга прытулку на ялцінскіх могілках, выданне «Вянка»... І тут вас чакае адкрыццё — тэкст невядомага раней фельетона Багдановіча «Международный чемпионат і ярославцы». Дапаўняюць маладосцеўскую багдановічазнаўчую карціну артыкулы даследчыкаў літаратуры Евы Лявонавай, Ульяны Верынай і Ціхана Чарнякевіча.




Закранула «Маладосць» і тэатральны погляд на асобу Багдановіча. Чытайце ў нумары інтэрв'ю з акцёрам Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Аляксандрам Марчанкам, які выконвае ролю паэта ў спектаклі «Інтымны дзённік» па п'есе Сяргея Кавалёва.

У пятым нумары разам з Багдановічам «Маладосць» выпраўляецца шукаць «чары ў забытым, старадаўнім». Гаворка ідзе пра рубрыку «ГістфакТ», у якой будуць публікавацца цікавыя матэрыялы на гістарычную тэматыку. Першая ластаўка — артыкул аспіранта Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Станіслава Юрэцкага «З нашай дагісторыі».

**Тамара САРАЧЫНСКАЯ**

# І жыць, і змагацца!

Творчы вечар беларускага пісьменніка і мастака Сяргея Давідовіча адбыўся ў межах чарговага пасяджэння літаратурнага клуба «Шчырасць», што працуе на базе сталічнай бібліятэкі № 22. Галоўны герой сустрэчы — паэт, празаік, сатырык, гумарыст, мастак, скульптар. Акрамя таго, ён з'яўляецца членам двух творчых аб'яднанняў — Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага саюза мастакоў, — а таксама Ганаровым грамадзянінам Лагойска. Летась у выдавецтве «Чатыры чвэрці» пабачыў свет зборнік вершаў і паэм С. Давідовіча «У віры падзей». Падчас імпрэзы публіцы быў прадстаўлены сюжэт тэлеканала «Беларусь 1». Распавядалася ў ім пра мастацкую галерэю, адкрытую Сяргеем Фёдаравічам у Лагойску на месцы былой кнігарні, пра кнігу «У віры падзей» (чатырнаццатую!) і каталог карцін аўтара.

Кіраўнік клуба «Шчырасць», старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў, у прывітальным слове назваў С. Давідовіча чалавекам зямлі, чалавекам народа. «Жыць і не змагацца — гэта не па мне…» — сцвярджае Сяргей Фёдаравіч у адным з вершаў. Яго лірыка (пяру творцы належыць і звыш 60 паэм) — увасабленне філасофіі жыцця простага чалавека. С. Давідовіч пачынаў свой шлях у літаратуру як паэт-песеннік, супрацоўнічаў з кампазітарамі Валерыем Івановым, Яўгенам Глебавым, Ігарам Лучанком, Юрыем Семяненкам. А ў 2001 годзе на кінастудыі «Беларусьфільм» паводле яго сцэнарыя была знята поўнаметражная кінакамедыя «Свежына з салютам».

Пабачыўшы падчас вечарыны сярод гледачоў студэнтаў ваенна-тэхнічнага факультэта БНТУ, Сяргей Фёдаравіч прыгадаў, што са службай у войску звязаны яго самыя светлыя ўспаміны. Палкоўнік у адстаўцы, да творчасці ён прыйшоў ужо ў сталым узросце.

Што ж да С. Давідовіча-мастака, то цэнтральнае месца ў яго жывапісе займае чарнобыльская тэма. З адпаведнай выстаўкай аўтар аб'ездзіў шмат краін. З благаславення мітрапаліта Філарэта Сяргей Давідовіч у 2006 г. распісаў купал храма святых апосталаў Пятра і Паўла ў вёсцы Жукаўка (Мінскі раён), за што Беларуская праваслаўная царква ўзнагародзіла яго медалём святцеля Кірылы Тураўскага.

**Яна ЯВІЧ**

# На ўроку мужнасці

Напярэдадні Дня Перамогі ў бібліятэцы імя Л. Талстога адбылася сустрэча з беларускім пісьменнікам Алесем Савіцкім, аўтарам шматлікіх раманаў, аповесцей, ветэранам Вялікай Айчыннай вайны. Падчас імпрэзы, якая атрымала назву «Жыццёвае поле Алеся Савіцкага», прысутныя яшчэ раз узгадалі герояў і падзеі мінулай вайны. Алесь Ануфрыевіч — сведка тых дзён, на яго долю выпала шмат выпрабаванняў.

У бібліятэцы сабраліся вучні сталічных школ, з якімі Алесь Савіцкі падзяліўся ўспамінамі. Цяжка ўявіць сабе, але ў іх узросце пісьменнік, тады яшчэ зусім малады хлопец, бараніў сваю Радзіму. Калі пачалася вайна, Алесь Ануфрыевіч скончыў восем класаў. Некалькі гадоў партызаніў на Віцебшчыне, потым ваяваў на фронце. Дайшоў да самага Берліна і пераможна распісаўся на сцяне Рэйхстага. Быў тройчы паранены. За геразім і мужнасць узнагароджаны ордэнамі Славы, Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны І ступені, «Знак Пашаны», медалямі і ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР. Свае першыя вершы напісаў яшчэ ў партызанскім атрадзе. У пасляваенны час пачаў публікаваць апавяданні і нарысы ў часопісах і рэспубліканскіх газетах.

Вялікая Айчынная стала незагойнай ранай на сэрцы. Алесь Савіцкі з цеплынёй узгадваў падчас сустрэчы сваіх баявых таварышаў. Аднойчы ў акопе чытаў ім на памяць паэму Янкі Купалы «Курган».

У мастацкіх творах Алеся Савіцкага сцвярджаюцца найлепшыя чалавечыя якасці: смеласць, шчырасць, працавітасць, любоў да Бацькаўшчыны. Сустрэча стала своеасаблівым урокам маладому пакаленню. Урокам мужнасці, адвагі і высокай маральнасці.

Выкладчыкі і навучэнцы Мінскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва імя М. А. Кедышкі доўга не адпускалі творцу, задавалі пытанні, фатаграфаваліся з Алесем Ануфрыевічам і дарылі яму кветкі новага мая.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Журналісту, аграрыю

Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт прыняў рашэнне аб прысваенні ганаровага звання «Чалавек года» за высокія вынікі і вялікі асабісты ўклад у сацыяльна-эканамічнае развіццё вобласці па выніках работы за 2013 год.

У дзвюх з 16 намінацый гэтага звання ўдастоены два члены Саюза пісьменнікаў Беларусі з Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ: Георгій Тамашэвіч, старшыня абласной арганізацыі Беларускага саюза журналістаў, і Аляксей Скакун, старшыня СВК «Астрамечава», вядомы аграрый і палітык.

І хоць на абласную Дошку гонару яны занесены не за літаратурныя заслугі (Г. Тамашэвіч дасягнуў поспехаў у галіне грамадскай дзейнасці і інфармацыйнай палітыкі, А. Скакун — у развіцці аграпрамысловага комплексу), тым не менш калегам па літаратурным цэху прыемна павіншаваць сваіх супольнікаў з заслужанай перамогай. Гэта чарговае пацвярджэнне таго, што пісьменнікі, якія пасады б ні займалі, заўжды працуюць на карысць сваёй зямлі, грамадства, усёй Беларусі.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

У сувязі са смерцю вядомага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, былога супрацоўніка штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» і часопіса «Маладосць», былога галоўнага рэдактара часопіса «Нёман» Анатоля Паўлавіча КУДРАЎЦА РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім беларускага паэта, празаіка і перакладчыка Давіда СІМАНОВІЧА з нагоды яго смерці.

Кастусь ЖУК



## Багацце

*Ты, скажаш, багаты.*
*Ды я — не бядней за цябе.*
*Бо*
*Сонца над хатай*
*І дождж падару я табе.*

*І вецер свавольны,*
*Які захінуўся ў аер.*
*Прывольнасць і вольнасць,*
*Дзе*
*Ходзіць напужаны звер.*

*Грамы і маланкі,*
*Знямоглага Нёмна віры,*
*І спеў канаплянкі,*
*І жаўранка*
*Ўскрык на зары.*

*І тых буслянят галасы,*
*Што*
*Яшчэ на гняздзе...*
*Такое*
*Багатай красы —*
*Ты не ўбачыш нідзе!*

## Хрыстос

*Не верце таму,*
*што не ўсіх запрасіў я за стол.*
*Не верце таму,*
*што хварэў недаверам*
*нязменна.*
*Я верыў,*
*што кожны з вас —*
*першы за Бога*
*пасол, —*
*Не толькі вам Бог памагае,*
*а ўся Айкумена.*

*Я ў Бога і сам папрашу,*
*каб ачысціў душу,*
*(Прашу ж я — о Божа! —*
*павер не валхвам —*
*мне самому!)*
*Смяротную чашу распяцця*
*спаўна асушу,*
*Каб стаць між нябёс*
*Саваофа зямным*
*вакаёмам.*

## Фарны касцёл

**Анатолю Бутэвічу**

*Глянь,*
*І я ў зняменні, задуменні, —*
*Галаву*
*Прад вечнасцю схіляю.*
*Мроіцца:*
*Я з продкамі ў маленні,*
*Дзе арган і плача,*
*І спявае.*

*Успадобіў*
*Постаць Радзівіла.*
*Пакланіўся*
*І Хрысту, і крыжу.*
*Хай дадуць мне*
*Да скանчэння сілы*
*Гэтыя*
*Заступнікі Нясвіжа.*

*Адчуваю фарна,*
*файна,*
*дбайна*
*Даўніну ў падмурках,*
*У скляпеннях,*
*Што глыбінна*
*Прыадкрылі тайну*
*Вечнасці Нясвіжа —*
*На імгненне...*

## Пад маладзіком

*Ноч — не міласэрная сястра, —*
*Ні дрымота не бярэ, ні спячка,*
*Бо гуляе ў прыцемках двара*
*Прыгажуня*
*З пестуном-сабачкам.*

*Пад весельчаком-маладзіком,*
*Гожа маладзіцца маладзіца.*
*Не жанчына —*
*Кроў, ды з малаком, —*
*Удагонку хочацца пусціцца.*

*Я пашлю за ёю свой пагляд,*
*Ды ніхто ў адказ*
*Не азірнецца.*
*Але буду непамерна рад,*
*Што заб'ецца ў ліхаманцы сэрца.*

*Пад маладзіком я — маладзён*
*І жадзён*
*На ўсе спакусы ўрэшце.*
*Але ўжо на скон*
*Мой марны плён —*
*Бо нырнула прыгажуня ў рэчку...*

## Глуханямая

*Знак неба*
*ў распагоджаных вачах.*
*І чырвань ад суніц*
*на вуснах спелых.*
*І сонейка зірчэ*
*на плячах,*
*Яшчэ дрыготкіх —*
*і зусім нясмелых.*

*Тваё маўчанне —*
*голас цішыні.*
*Тваё дыханне —*
*мне пра ўсё гаворыць.*
*Як блудны сом,*
*я трапіў у браднік*
*Тваёй спакусы*
*і тваёй пакоры.*

*Святой душы*
*свіціе дабрыня,*
*І глыбіня вачэй*
*вячэе ўдумна...*
*Ды хвалявання ў сэрцы —*
*не суняць:*
*І радасна мне за цябе —*
*і сумна.*

***

*Не пакідай,*
*Калі стану сляпым.*
*Не пакідай,*
*Калі стану бязногім.*
*Не пакідай,*
*Калі вырастуць рогі*
*Там,*
*Дзе ля ложка стаяў херувім.*

*Знай:*
*Легкаплынная плоць пачуцця,*
*Мы, і зграшыўшы,*
*Даверымся лёсу,*
*Бо меданосаць*
*Жыцця меданосы*
*Там,*
*Дзе ёсць чараў адвечных працяг...*

*Веру ў сонца.*
*І веру ў сон,*
*Што ашчаслівіў*
*Наш поўдзень даверам.*
*І адкрываю*
*Развеснена дзверы*
*У навізну*
*Распагоджаных дзён.*

## Прадвесне

*Туман, —*
*Ты ўвеў мяне ў зман.*
*Рахманы.*
*А ранак —*
*Ён мой талісман*
*Туманны.*

*Туманы,*
*А мо — туманы?*
*Прад імі я —*
*Вязень...*

*Прынеслі вясну груганы,*
*І ясніца ясень.*

*Пад ясенем я —*
*Як дзіця.*
*І сэрца дабрэе.*
*А крык груганя —*
*Як працяг, —*
*Яшчэ не старэю!*

## Вывадак

*Паляцелі птушкі не дадому —*
*Паляцелі ў вырай.*
*Паламала бура, як салому,*
*Гэтых птушак вывадак.*

*Неба*
*Хоць глядзела сонцу ў вока —*
*Боль іх пагледзела,*
*Бо*
*Яшчэ даносіўся*
*Здалёку*
*Крык іх звар'яцелы...*

*Паляцелі птушкі не дадому —*
*У свой вечны вырак...*

*Дык чаму ж ты, бура, як салому,*
*Знішчыла той вывадак?!*

## Таямніцы нябёс

*Запрагае*
*Маланку гром —*
*Агнягрывую кабыліцу —*
*І імчыць*
*Па нябёсам суздром.*
*І ніяк*
*Не ўсумніцца ў вазніцы.*

*...я аднойчы ўсумніўся.*
*Але*
*Гром ударыў*
*Па мне бліскавіцай.*
*Дуб — счарнеў.*
*Я — знямеў.*
*На чале*
*Засталася*
*Нябёс таямніца.*

Вольга ШПАКЕВІЧ



## На рацэ

*Цалуюць хвалі носік лодкі,*
*Плывуць насустрач берагі,*
*У белай зайздрасці аблокі*
*Пайшлі наводдаль укругі.*

*І гнуцца, кланяюцца травы*
*У першароднасці абноў,*
*І цёплы вецер, і ласкавы,*
*І таямнічасць туманоў...*

*А мы ўдваіх у надвячорак,*
*Ты мне раднейшым сёння стаў.*
*Збяры з ракі хоць колькі зорак,*
*Калі ўжо з неба не дастаў!*

## Лілея «Царская карона»

*Лілея «Царская карона» —*
*На клумбе радасны пажар,*
*І хай што хочуць мне гавораць —*
*У гэтай кветкі ёсць душа.*

*Бо як сумела здагадацца*
*Тады якраз запалымнець,*
*Калі цяплом, як сонца, шчасце*
*Душу наскрозь сагрэла мне?*

*«Карона царская»-лілея*
*Палае залатым агнём.*
*Цвіце, узнёсла палымнее*
*Каханне, шчасцейка маё.*

## Нёман вечаровы

*Люблю я Нёман вечаровы*
*Пад вартай сцішаных дубоў,*
*Дзе з лугу стомлена каровы*
*Гурмою цягнуцца дамоў.*

*Кумуюць жабы у затоках:*
*Вясёлы так ідуць у іх;*
*Прачнуўся месяц круглабокі,*
*А вецер у кустах заціх.*

*Вады у Нёмане да краю—*
*Вясною шчодрая рака.*
*Шчаслівы той, каго чакаюць,*
*І шчаслівейшы, хто чакаў.*

## Начны горад

*Ліхтароў залацістыя ўзоры*
*У прыцішанай ноччу сталіцы,*
*У нябёсах пасеяны зоры,*
*За ўвесь дзень сонцу звычна стаміцца.*

*І пасталі машыны прыгожа*
*Ад бясконцых дарог адпачыць,*
*Толькі сэрца стаміцца не можа*
*Ні кахаць, ні тужыць уначы.*

## Адказ апанентам з вёскі

*У горадзе лепей? Суровы ён, горад,*
*У тэмпе шалёным гудзе.*
*Ці радасць нясеш, ці затойваеш гора—*
*Самотны ты ў моры людзей.*

*Адбор натуральны: слабейшы затрэцца,*
*Тут розум і здольнасць — найперш.*
*У горадзе лепей, лягчэй? — так здаецца,*
*Бо ў горадзе ты не жывеш.*

## Мая малітва

*Зачынюся ціхенька ў пакоі*
*І лампадку ў цэмры запалю,*
*Памалюся шчыра,*
*у спакоі*
*Я за тых,*
*найперш,*
*каго люблю.*

*За сваіх крыўдзіцеляў —*
*таксама*
*І за тых, хто ў іншы свет пайшоў,*
*Памалюся,*
*хто яшчэ да храма*
*У жыцці дарогу не знайшоў.*

*І яшчэ —*
*за бедных і нямоглых,*
*І за тых, каму цяжэй, чым мне,*
*Няхай Бог пазбавіць іх ад злога*
*І спакуса ўсякая міне.*

*І гарыць лампадка. Ціха вусны*
*Славяць Бога,*
*просяць у мальбе*
*За пявучы край наш беларускі,*
*А ў канцы —*
*за грэшную сябе.*

## Выпадковы сустрэчны

*Выпадковы,*
*зусім выпадковы,*
*І сустрэўся на колькі хвілін,*
*А жартоўныя цёплыя словы*
*Мімаволі ў душу паплылі.*

*А я доўга пасля шкадавала,*
*Што ў адказ не паслала свой жарт,*
*Што хвілінак было гэтак мала,*
*Ад якіх уваскрэсла душа.*

*Хоць звычайны і сам,*
*і сустрэча,*
*Нат у думках не месца такой,*
*Толькі вось закрануў мяне нечым*
*І надоўга забраў супакой.*

Крысціна ПЯСЕЦКАЯ



***

*Мяне натхняе пах цюльпанаў жоўтых,*
*Што так пяшчотна зіркаюць, смяюцца.*
*Нібыта сам у мой пакой прыйшоў ты —*
*Ды слёзы радасці з вачэй маіх ліюцца.*

*І водар тых цюльпанаў асаблівы,*
*З адценнем дум, слоў і прабачэнняў...*
*І позірк твой наіўна-палахлівы,*
*Нібы цюльпаны — нейкае здарэнне.*

*Мне поўніць грудзі водар*
*кветак жоўтых,*
*Цюльпаны ў вазе весела смяюцца...*
*Нібыта сам у мой пакой прыйшоў ты —*
*Ды слёзы радасці з вачэй маіх ліюцца!*

***

*Забытым словам сэрца не будзі,*
*Не варушы загоеную рану,*
*Ты лепш выразна ў вочы паглядзі,*
*Звычайна, не чакаючы падману.*

*Зялёныя і родныя, казаў,*
*Да іх іду, за іх аддам жыццё я...*
*Казаў, ніколі б іх не прамяняў,*
*Казаў… Пасля пакінуў… назаўсёды.*



# Уладзімір СЦЯПАН

# Сустрэча

## *Навела*

А было гэта так — роўна тры гады таму.

Мужчына ішоў па праспекце на сустрэчу, да якой заставалася дзевяць хвілін. Прайшоў побач з шэра-шурпатым будынкам вайсковага прызначэння, які стаіць па дыяганалі насупраць цыркя. Убачыў пару афіцэраў, падобных да блізнят. Бліснулі на фуражках кукарды, а па-над імі растапыраныя крылцы. Потым, праваруч, камлямі заснежаных дрэў, рушыў насустрач шэраг калон з капітэлямі… Але на белае лісце будынка прафсаюзаў мужчына толькі зірнуў, не разглядаў, бо не хацеў спазніцца. Пры падземным пераходзе, за якім выпрасталася роўная плошча, яго пераняў высокі мужчына. Ён узнік нечакана, як з-пад зямлі вырас. А можа, стаяў пры сцяне, хаваўся ў цяньку.

Незнаёмец павітаўся голасам асцярожным, але гучным. На ім быў старамодны цёмна-сіні касцюм, светлая, але не белая кашуля, тупаносыя, як абсечаныя, чорныя чаравікі. Так апраналіся сур'ёзныя мужчыны гадоў пяцьдзясят таму. На калашынах адпрасаваных штаноў меліся манжэты, а касцяныя гузікі на пінжаку ішлі густа, у два рады. Незнаёмец — ружоватвары, шэравокі і да таго ж — бязбровы. Высокі лоб і лысіна — у адзін колер. Ён не заступіў дарогу да прыступак у падземны пераход, ён стаяў на другой прыступцы. Такіх сустрэч у нашым горадзе за дзень здараецца некалькі. То жанчына спыніць, то маладзён прапануе рэкламную ўлётку з абяцаннем добрай працы і заробку ад 600 долараў… І гэты бязбровы, няпэўнага ўзросту чалавек, які павітаўся першым, прапанаваў кнігу. Ён трымаў яе на далоні, і таму здавалася, што далонь яго прамавугольная, шырокая, як тая кніга на ёй. Вокладка цыратавая, арэхавага колеру.

Была грунтоўнасць у зашпіленым на ўсе гузікі незнаёмцу. Ён пачаў тлумачыць, што не патрабуе ўзнагароды, не трэба яму плаціць, што кніга — падарунак. Мелася яшчэ адна дэталь, якая рабіла абліччa бязбровага чалавека завершаным. З кішэнькі пінжака, на грудзях, выглядалі чарнільныя самапіскі. Вузкія зашчапкі ўчэпіста трымаліся за край кішэні і нагадвалі тонкія жалезныя іклы.

Мужчына, які спяшаўся на сустрэчу, прыпыніўся і нават не падумаў, а згадаў цётку, якую ведаюць ці не ўсе жыхары сталіцы. Тую гучнагалосую цётку, якая спявае побач з Камароўкай і чыгуначным вакзалам свае рэлігійныя песні, на матыў рэвалюцыйных, тую, якую спярша чуеш, а потым бачыш. Побач з якой праходзіш і не ведаеш, ці смяяцца, ці заставацца сур'ёзным. Мінаеш спявачку, чуеш словы, спрабуеш зразумець сэнс, але словы ляцяць, застаюцца за спіною, пачутымі, але незразумелымі.

Бязбровы патлумачыў, што кніга — Біблія, надрукаваная на англійскай мове. Што ён вырашыў яе аддаць у добрыя рукі, першаму, хто трапіцца на вочы. Ён і яшчэ нешта гаварыў, але хутчэй сабе, трымаў кнігу, глядзеў у вочы і міргаў.

Саракагадовага невысокага мужчыну звалі Барысам. Працаваў ён на заводзе, у канструктарскім бюро, інжынерам. Заробкамі быў незадаволены, а хто і калі заробкамі задаволены? Няма такіх. Жыў Барыс з жонкай, былі дачка-дзевяцікласніца і шэры кот, на пяць гадоў маладзейшы за дачку-школьніцу. Да рэлігіі Барыс, яго жонка і дачка ставіліся са спакойнай абыякавасцю, не пераймаліся. Вядома, што і Барыс, і ягоная жонка хацелі змяніць сваё жыццё да лепшага. Хацелі, але не атрымлівалася.

Барыс задумаўся. Ён даўно меў правіла, думаю, што такія правілы паводзін мае кожны дарослы. Калі да цябе на вуліцы падыходзяць лысыя крышнаіты, загорнутыя ў ружовае палатно, ці маладзёны у акуратных стройчыках, пры гальштуках, то лепш не марнаваць час на размовы, не спрачацца, а хутка прайсці, абмінуць. Так ён і рабіў, але тут спыніўся і пачаў глядзець на ўладальніка кнігі ў цупкай вокладцы. Англійскую мову Барыс ведаў кепска, ці як пішуць у анкетах (чытаў са слоўнікам).

Ён узяў з далоні незнаёмца кніжку. Узяў і сам не здзівіўся, а толькі вінавата ўсміхнуўся і падзякаваў. Узяў акуратна, як бярэ кавалак цукру мяккім, цёплым ротам конь, як здымае крошку пінцэтам дзюбы прыручаная маленькая пташка. З кніжкай у руцэ Барыс перайшоў праспект. На другім баку спыніўся, стаў да сцяны з тэатральнымі плакатамі і разгарнуў, паспрабаваў чытаць, хоць літаркі аказаліся занадта дробнымі, як у інструкцыях да лекаў. Чытаў, разбіраў, а потым спахапіўся, згадаў пра сустрэчу, на гадзінніку было пяць на сёмую. Заспяшаўся. Кніга ўвайшла ў кішэнь курткі, быццам яны зробленыя адно для аднога.

На вуліцы Карла Маркса, за столікам кавярні, пад сінім парасонам, аднакурсніка не было, але адзін столік заставаўся вольны. Барыс зазірнуў у памяшканне, але і там інстытуцкага таварыша не пабачыў. Ён сеў за вольны столік і пачаў тэлефанаваць. Адказам — доўгія гудкі і крыўда, бо Барыс амаль ніколі не спазняўся. І цяпер бы не спазніўся, каб не той ідыёт у цёмна-сінім старым касцюме, з непатрэбным падарункам і доўгімі размовамі ні пра што. Калі апускаў у кішэнь мабільнік, то рука слізганула па прахалоднай вокладцы кніжкі. Барыс дастаў яе, каб пакласці ў заплечнік, але не паспеў, бо пачуў сваё прозвішча.

Азірнуўся, павярнуўся, падняўся, бо побач стаяў мужчына ў яркай шаўковай кашулі з кароткімі рукавамі, на патыліцы сіваваты хвост, радасна смяяўся белымі зубамі і падаваў руку. Мужчыну звалі Пётр Алегавіч Кандратовіч, ён выступаў на абароне дыплома. Размова атрымалася хуткай, бо Кандратовіча чакала ў машыне жанчына з кароткімі саламянымі валасамі. Былы інстытуцкі выкладчык даў Барысу візітку. На ёй меліся тэлефонны нумар, імя і прозвішча, надрукаваныя па-англійску. Яшчэ ён сказаў, каб Барыс не прападаў, а заўтра, можна ў любы час, патэлефанаваў і пад'ехаў да яго. Сказаў, што менавіта такі спецыяліст яму тэрмінова патрэбны. Калі Барыс пацікавіўся заробкам, то адказам сталі белазубая ўсмешка і фраза, што гэта — пятае пытанне і перашкаджае ім не варта. Шаўковая кашуля мексіканскай расфарбоўкі мільганула ў салоне вялікай чорна-бліскучай машыны, якая займала палову вуліцы, паднялося шкло і закрыла жанчыну і Кандратовіча, як папяросная папера малюнак.

Барыс трымаў у левай руцэ кніжку, у правай — прамавугольныя візіткі. Як ён ні стараўся, а зразумець, што і да чаго, не мог. Схаваў кніжку ў кішэнь, замовіў шклянку мінералкі і сеў…

Наступным днём, раніцай, паголены, у касцюме, нечым падобны да школьніка старэйшых класаў, прыйшоў да Кандратовіча. Праз дзве гадзіны выйшаў, купіў у першай жа краме, якая трапілася на шляху, пачак цыгарэт і закурыў. Пакуль дайшоў да аўтобуснага прыпынку, выкурыў яшчэ цыгарэту. На заводзе напісаў заяву на звальненне і толькі пасля гэтага патэлефанаваў жонцы ды паведаміў, што з заўтрашняга дня ён на завод ездзіць не будзе, бо звольніўся. Жонка прыняла навіну моўчкі.

Праз месяц на банкаўскую картку «прыйшлі» першыя грошы. Барыс з жонкай і дачкой доўга глядзелі на восем лічбаў, лічылі нулі. Першай палічыла дачка. Наступнай — жонка. Барыс упэўніўся, што гэта не памылка, апошнім. Жонка на дзіва моцна сціснула яго руку, аж пальцы забалелі. Вярнуліся з крамы. Дома была бутэлька чырвонага віна, якое весела выпілі, а шэраму кату далі рыбы. Кот задаволена пахрубасцеў тонкімі косткамі, каўкнуў і заскочыў на канапу, а з яе на падаконне. Над горадам рассыпаліся ў бэзавым небе, як каляровыя кветкі на шаўковай кашулі Кандратовіча, яркія, запамінальныя мексіканскія агні святочнага феерверку...

Восенню дачка перайшла ў гімназію, да яе тры разы на тыдзень прыходзілі рэпетытары, а два разы на тыдзень яна ездзіла на плаванне. У жонкі з'явілася некалькі сяброvak, якія за ёй заязджалі на сваіх машынах, а пасля заняткаў фітнесам падвозілі пад самы пад'езд. Барыс на працу спяшаўся, вяртаўся позна, працягваў перамовы па тэлефоне, сядзеў за камп'ютарам, пісаў лісты, гаварыў па скайпе, удакладняў тэрміны, лічбы… Некалькі разоў да Новага года з'ездзіў у Маскву і Кіеў. Амаль штодня вучыў англійскую мову, прылепліваў да лядоўні паперкі са словамі. Потым пачаў ездзіць да настаўніка. Нават з дачкой калі-нікалі гаварылі па-англійску, звычайна ў нядзелю, пасля сняданку ці калі садзіліся за вячэру. Шырокі мабільнік у вокладцы-футарале заўсёды ляжаў побач, на адлегласці выцягнутай рукі.

Праз год працы ў Кандратовіча, летам, Барыс памяняў сваю маленькую бацькоўскую кватэру на вялікую, амаль у цэнтры горада, на ціхай вуліцы побач з оперным тэатрам. Першым у адрамантаваную кватэру пусцілі старога шэрага ката. Ён увайшоў смела, быццам раней жыў тут і ўсё ведае наперад. Заскочыў на шырокае падаконне, ляніва каўкнуў і лёг. Пасля пачалі прывозіць новую мэблю. Жонка і дачка кіравалі рабочымі, паказвалі, што і куды заносіць, пакрыквалі, каб мужчыны асцярожна ўпраўляліся са шклом. Гаспадар прыехаў вечарам, агледзеў усё вакол і сеў на скураную канапу. Мабільнік трымаў у руцэ. Спачывальня з цёмнымі і шчыльнымі шторамі Барысу не спадабалася, але хіба гэта нагода, каб спрачацца? Ёсць і большыя ды цікавейшыя пытанні, якія трэба рыхтаваць і вырашаць. Ён сказаў жонцы, што ўсё нармальна, што яго ўсё задавальняе, а потым паведаміў, што праз два дні паляціць у Кітай, а потым у Амерыку. Камандзіроўка кароткая, бо ён паляціць з шэфам. Жонка прапанавала завезці яго ў аэрапорт, на сваёй новай машыне, але ён сказаў, што паедзе рана, на службовай…

Праз тры гады ад той сустрэчы дачка паехала вучыцца ў Англію. Барыс з жонкай напрыканцы лета глядзелі дом за горадам. Аднапавярховы, з чырвоным дахам, вялізнымі вокнамі. Катэдж быў новы, яго тэрмінова прадаваў гаспадар, бо пільна спатрэбіліся грошы. Маленькі сівавалосы рыэлтар вадзіў Барыса па катэджы з мэбляй, дзе нават хатнія тапкі стаялі пры ўваходных дзвярах, а ў ванным пакоі віселі цёмна-сінія і белыя ручнікі, на кухні зняў некарыстаны посуд. Барыс хадзіў з пакоя ў пакой, сам адчыняў дзверы і зазіраў у пустату, якая пахла ўсім новым, незнаёмым і чужым. Рыэлтар і жонка спыняліся і чакалі. Барыс глянуў у вялізнае вакно і спытаў, чаму не бачна возера. Драбнатвары гандляр нерухомасцю патлумачыў, што на вадасховішча можна глядзець праз вокны з паўднёвага боку…



У. Сцяпан «Мальва», 1980 г.

Так магло б быць, каб Барыс Раўчакоў тры гады таму, у апошнюю суботу мая, узяў і спыніўся, калі ўбачыў мужчыну ў цёмна-сінім касцюме. Але Барыс не спыніўся. З былым аднакурснікам сустрэўся побач з кавярняй, месцаў пад парасонамі не было. Два інжынеры купілі піва і пайшлі ў двор. Селі на лаву, пачалі піць і скардзіцца на сваё жыццё, жонак, дзяцей і бязмозглых старых начальнікаў. Мужчынам было бесклапотна і добра. Пахла язмінам.

# Самабытны беларускі комікс

Гісторыя комікса пачынаецца з далёкай старажытнасці: шумерская і егіпецкая цывілізацыі пакінулі ўзоры пісьменства, якія пэўным чынам можна аднесці да коміксаў. Існуе таксама меркаванне, што гэты жанр бярэ пачатак у XVI — XVII стагоддзях, з тэрыторый Валенсіі і Барселоны, калі там пачалі прадаваць пераказы жыццяў святых — серыі невялікіх гравюр, надрукаваных на аркушах паперы. Як адзначае Ж. Садуль ва «Усеагульнай гісторыі кіно», «у XIX ст. у Эпінале наладжваецца фабрычная вытворчасць гісторый у малюнках».

## КОМІКС ТАМ

Але найперш комікс асацыюецца з амерыканскай поп-культурай. У ЗША залаты час папулярнага сёння жанру прыпадае на 30 — 50-я гг. ХХ ст. Самы ж першы амерыканскі комікс «Медзведзяняты і тыгр» выйшаў у 1892 годзе. Спачатку амерыканскія коміксы мелі жартоўны характар, але ўсё змянілася ў 1938-м, калі адбылася знакавая падзея: з'явіўся першы Супермэн! З гэтага часу становяцца папулярнымі супергероі, а коміксы ствараюцца ў жанрах дэтэктыву, жахаў, фантастыкі і баевікоў. Былі таксама іншыя тэмы папулярных коміксаў: «дзікі захад», прыгоды ў джунглях, жывёлы, злачынствы, войны, каханне, псеўдагісторыя і творы класікі, вядома, прымітывізаваныя.

Цікава, што супергероі змагаліся не толькі з такімі ж прыдуманымі злодзеямі. Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны яны не раз супрацьстаялі фашыстам, а часам і камуністам. На сучасным этапе коміксы робяцца больш рэалістычнымі, нават трагічнымі, што тлумачыцца надзвычай моцным уплывам на заходнюю культуру японскай традыцыі малявання коміксаў манга, якая з'явілася ў 30-я гг. ХХ ст.

## КОМІКС ТУТ

Калі казаць пра распаўсюджванне коміксаў на абсягах СССР, адразу ж варта згадаць часопісы «Весёлые картинки», «Крокодил» і нават «Наука и жизнь». У 1960-я гады героямі першых коміксаў сталіся Пеця Рыжык, Міка і Мука, сабачка Піфа і кот Геркулес (па матывах апошняга быў зняты мультфільм). З'явіўся і савецкі супергерой — маёр Пронін (коміксы, мультфільмы і фільмы ствараліся на аснове апавяданняў Льва Авалава). У выглядзе коміксаў можна знайсці вядомы мультфільм «Таямніца трэцяй планеты» (паводле Кіра Булычова) і гісторыі пра ката Леапольда.

Пачынальнікам беларускага комікса можна лічыць Адама Глобуса з яго «Дзікім паляваннем і каралём Стахам» ды «Дамавікамеронам», а таксама папулярнымі коміксамі, друкаванымі ў часопісе «Бярозка», — пра Перуна, Вялеса і Цмока. «Дзікае паляванне» па стылістыцы нагадвае малюнкі з «Аповесці мінулых часоў», хоць Глобус збольшага стараўся перадаць уласнабеларускі каларыт. У кнізе змешчана таксама гісторыя (пашыраны варыянт, так бы мовіць), паводле якой намаляваны комікс, але не ведаючы поўнага тэксту, зразумець, што да чаго, вельмі цяжка. Гэтыя коміксы створаны на аснове міфалогіі і класічнай літаратуры, у той час як у заходняй практыцы сітуацыя зваротная — часта, хоць і не заўсёды, коміксы робяцца асновай для стварэння кіно, мультфільмаў і г. д. Варта сказаць, што беларускіх самастойных коміксаў «з нуля» практычна няма.

Міфалагічную лінію працягваюць коміксы «Пра Андрэйку Добрыка і чорціка Дуроніка» (мастак Ігар Ліпскі). На аснове навуковай фантастыкі зроблены коміксы «Дзе жылі бурсонікі» і «Планета мілітар» (Уладзімір Цвяткоў,




*Старонка з беларускага комікса «Дзе жылі бурсонікі».*

Аляксандр Каршакевіч). «Дзе жылі бурсонікі» — комікс у самым звыклым разуменні. Прынамсі, тут маюцца ўсе элементы для цэласнага ўспрымання: тэкст плюс малюнак, словы аўтара, простая мова, гукаперайманні для абазначэння знешніх раздражняльнікаў, асобна вылучаныя думкі. Галоўная гісторыя расказваецца ў класе касмічнай навігацыі дзядулем аднаго з вучняў, Лявонам Рыгоравічам. Дзядуля, які прылятае на незнаёмую планету, разбіваецца на караблі. Герой сустракае разумных мясцовых жыхароў, якія, з яго слоў, усё ўмеюць, бо яны бурсонікі. Гісторыя расказаная як казка, але слухачы добра разумеюць, што гэта рэальнае здарэнне. «Дзе жылі бурсонікі» — перадусім выданне для дзяцей. Тут няма экшна і «дарослых» падзей (боек, гвалту, крыві, выбухаў і г. д.).

Гэтак было напачатку. А што з беларускай комікс-культурай адбываецца цяпер? Існуе партал *comicsby.by*, дзе змешчаны перакладныя класічныя амерыканскія коміксы — з Бэтмэнам, Чалавекам-павуком і іншымі сусветна вядомымі героямі. Гэты праект належыць гамяльчаніну Сяргею Козыраву. Своеасаблівым адгалінаваннем класічнага комікса ў Беларусі (ды і не толькі) з'яўляецца распаўсюджаная сёння мем-культура, дэматыватары і г. д. Складана разабрацца, хто тут і што пачынае, хто аўтар многіх інтэрнэт-опусаў, бо з'ява гэтая нарадзілася і актыўна развіваецца ў сацыяльных сетках. Цяпер кожны можа стварыць свой комікс пры дапамозе праграм-генератараў.

Але ёсць коміксы, якія заслугоўваюць асаблівай увагі. Адзін з іх — кніга «Муха ціп-топ» пра моладзь і для моладзі: гісторыі з жыцця сучасных гімназістаў, праблемы з настаўнікамі і бацькамі, першыя каханні і расчараванні. Асновай для яе сталі тэксты і малюнкі маладых аўтарак Олі Каліны і Натальгі Кандрацюк-Свярубскай; гэтыя матэрыялы былі выдадзеныя ў тыднёвіку беларусаў Польшчы «Ніва».

Яшчэ адзін цікавы праект — кніга коміксаў «Пра Кастуся», створаная паводле п'есы Уладзіміра Караткевіча «Кастусь Каліноўскі». Натуральна, коміксы прысвечаны падзеям 1863 — 1864 гадоў. Праект курыраваў Анатоль Івашчанка, а ў якасці арганізатара мастацкай часткі быў запрошаны Уладзімір Дрындрожык — мастак, дызайнер, паэт, музыка, які раней, дарэчы, коміксы не ствараў.

У альманаху «Беларус» (Нью-Ёрк, 2011 г.) змешчаны кароткія коміксы «Арол ці рэшка», «Пагоня на Грундвальд» і «Павуцінне» (аўтары Віталь Воранаў, Уладзімір Блуднік). Яшчэ адзін цікавы эксперымент — зборнік В. Быкава «Пасляжыццё», стылізаваны пад комікс (мастачка Ганна Крук).

Таксама можна адзначыць інтэрнэт-рэсурсы, створаныя для дзетак, дзе змешчаны міні-коміксы для вывучэння беларускай мовы (напрыклад, матэрыялы Глеба Лабадзенкі, якія хутка заваявалі вялікую папулярнасць і нават былі выдадзеныя ў папяровым варыянце). Мноства мініі-коміксаў можна знайсці ў дзіцячым часопісе «Вясёлка».

Адметна, што ўсе гэтыя коміксы вельмі адрозныя — па форме, мастацкім стылі, — бо створаныя яны не па пэўным шаблоне, як адбываецца ў заходняй культуры. У беларускай практыцы агульнага стандарту ўвогуле няма, прынамсі, пакуль.

Напэўна, нікому ўжо не трэба даказваць, што сёння комікс — не проста малюнкі з подпісамі. І заходнія, і японскія коміксы ствараюцца па пэўных законах, згодна з якімі кожная дэталь мае сваё значэнне. І толькі ведаючы гэтыя законы, можна цалкам зразумець і даць належную ацэнку пэўнаму твору ў гэтым жанры. Некаторыя рысы канона назіраюцца ў беларускіх коміксах Віталя Воранава і Уладзіміра Блудніка (спецыяльныя «воблачкі» для думак, уяўленняў, дыялогаў і г. д.). Коміксы ж Глобуса і Дрындрожыка падаюцца цалкам самабытнымі: малёўка і прынцыпы кампазіцыі не адпавядаюць існуючым правілам. Адметна і тое, што большасць нашых коміксаў створаная на гістарычную тэматыку. Відаць, таму гэты жанр і стаў заваёўваць папулярнасць у Беларусі, што моладзь пачынае асэнсоўваць гісторыю на іншым узроўні, а таксама таму, што яна мае патрэбу ў сваіх супергероях.

Магчыма, жанр займее яшчэ большую папулярнасць тады, калі чытацкая аўдыторыя зляжецца да такой ступені, што працей будзе прачытаць пару радкоў і паглядзець малюнкі, чым гартаць раман на 600 старонак. Альбо — калі выявы ў коміксе дасягнуць узроўню, умоўна кажучы, «вышэйшага мастацтва» і будуць прыносіць чытачу эстэтычную асалоду ад сузірання. Але і цяпер можна сказаць упэўнена: беларускі комікс не толькі мае права на існаванне, ён ужо існуе.

**Янка ЯСЮК,**
**Марына ВАРАБЕЙ,**
**Алесь ЯФІМАЎ**

# «Я — галінка»

Жыццё — своеасаблівае падарожжа. Не толькі ў прасторы і часе, але і падарожжа… душамі. І толькі ў казцы магчыма падарожжа па душах у прамым сэнсе. У гродзенскім выдавецтве «ЮрСаПрынт» выйшла асобнай кніжачкай казка Галіны Самойла «Чароўны ліхтарык», маленькай гераіні якой сонечны праменьчык Залацінка прапанаваў адшукаць Жорсткасць. Сам ён схаваўся ў чароўны ліхтарык, які дзяўчынка заўсёды насіла з сабой. Націскаеш кнопку — і адразу трапляеш у абраную душу. «Убачыш Жорсткасць — выпусціш мяне, і я яе знішчу», — такой вялікай была мэта ў маленькага сонечнага праменьчыка.

Аленцы давялося сустрэцца з рознымі праявамі чалавечай душы — Шчырасцю, Залежнасцю, Тугой, Бяздумнасцю, Абыякавасцю… І для кожнага вобраза Г. Самойла знаходзіць пэўныя штрыхі і фарбы. «Прыгожая дзяўчына: белатварая, грацыёзна-тоненькая, з доўгімі льнянымі валасамі, са спакойнымі жаўтавата-зялёнымі вачамі. Напэўна, так выглядала б кветка рамонка, калі б яна раптам ператваралася ў чалавека. Гэта партрэт Шчырасці, што жыве ў душы юнака-студэнта, які не змог прайсці спакойна міма Аленчыных слёз». А вось так выглядае Самаўпэўненасць: «Задраўшы галаву, выпраставўшы спіну, выцягнуўшы ногі, упёршыся лакцямі ў падлакотнікі, яна сядзела ў крэсле. На губах яе блукала ганарлівая ўсмешка. Ніводная частка яе цела, ніводная рыска твару не несла ў сабе ні пытанняў, ні сумненняў. Усё гаварыла: «Я самая разумная, прыгожая, смелая…» Жыве яна ў душы завуча школы Ганны Дзмітрыеўны. Вельмі блізка, амаль у неразлучным сяброўстве з Самаўпэўненасцю, знаходзіцца Нахабства, што цудоўна праілюстравана наступным дыялогам:

— Вельмі прыемна. Вельмі прыемна, — заўхмылялася Нахабства, давай паздароўкаемся!

Яно падало Аленцы руку. Аленка схавала рукі за спіну. Тады Нахабства паляпала яе па плячы:

— Здароўкацца не хочаш? Грэбуеш! Дык чаго заявілася?

— А я не да Вас прыйшла. Я Жорсткасць шукаю. Яна бывае тут?

— Не, — выскалілася Нахабства, — навошта? Мы і без яе тут праблемы вырашаем паспяхова.

— Я лічу, што страх выклікаць неабавязкова. Я ўпэўнена, што дастаткова выклікаць збянтэжанасць, прыніжанасць, маркоту, — паясніла Самаўпэўненасць.

Маленькая гераіня казкі вельмі разумная і дасціпная дзяўчынка. Нібыта ёй аўтар перадае ўласнае, глыбока філасофскае бачанне свету.

…Аленка ўсё-такі адшукала Жорсткасць. Залацінка загінуў у паядынку. Жорсткасць хацела знішчыць Аленку, але дзяўчынка паспела націснуць кнопку чароўнага ліхтарыка…

У анатацыі абазначана, што казка — для дзяцей сярэдняга ўзросту. І дададзена: «А магчыма, і для дарослых». Гэтае вызначэнне твор цалкам апраўдвае сваёй глыбінёй, дакладнымі псіхалагічнымі вобразамі. У той жа час казка напісана лёгка, цікава, чытаецца на адным дыханні. Гэтаму спрыяе прадуманы і выверaны сюжэт, а таксама дасканалае валоданне мастацкай мовай.

Галіна Самойла ў канцы кнігі змяшчае ліст свайго бацькі Сямёна Восіпавіча, які дае прафесійную (ён быў настаўнікам) ацэнку твора. Дарэчы, падкрэсліваe ўдалую кампазіцыю, паслядоўнасць, адсутнасць паўтораў, разнастайнасць і індывідуальнасць вобразаў. Ён ставіць пад сумненне жанр твора, таму што раскрыццё тэмы «значна глыбейшае», чым у казках. Так, гэта хутчэй казка-прыпавесць…

Хочацца згадаць прытчу пра шэры каменьчык: менавіта так я вызначаю верш, змешчаны пад назвай «Версэт» у паэтычным зборніку Г. Самойлы «Зоркі над маўклівай адзінотай». Шэры каменьчык хоча быць і воблачкам, і праменьчыкам, і вясёлкай, і просіць у жыцця: «Можна, я не буду больш гэтым шэрым каменьчыкам?» Але жыццё няўмольнае: «Не, будзеш. Пакуль не навучышся быць шэрым каменьчыкам». Нельга абмінуць гэтую стартавую прыступку да вышыні, да дабра, да святла — ва ўласнай эвалюцыі душ. Так і нельга, каб жыццё перастала быць змаганнем: залацінкі заўсёды ахвяруюць сабой у імя перамогі дабра і святла.

У казцы ёсць яшчэ адзін эпілогавы штрых — своеасаблівы postscriptum. Дзеці — Аленка з братам Лёнькам — гуляюць па «старых, вясковых» вуліцах горада: іх заўсёды заварожвала вясновая квецень, і яны «спецыяльна хадзілі туды падпільноўваць гэтае хараство». Дзеці знаходзяць зламаную галінку бэзу: яна завяла, калі пялёсткі яе гатовы былі вось-вось раскрыцца... Галінка ж падрыхтавала для візіты свой падарунак — першую белую кветку. «На жаль, задуманае не збылося», — канстатуе аўтар. Але з якой цеплынёй яна апісвае гэтую галінку! І тут знаходзіць адбітак асоба паэтэсы: яна ж сама — галінка…

*Мяне груша калыханнем будзіць,*
*Я жыву на дубе, вішняку…*
*Я — галінка. Не ламайце, людзі,*
*Калі раптам возьмеце ў руку.*

Галіна Самойла застаецца вернай сваім высокім чалавечым прынцыпам ды імкненням не толькі ў паэзіі, не толькі ў казцы для дзяцей, але і ў жыцці.

Лёнька падымае галінку, прапануе забраць яе дадому і паставіць у ваду. Галінка — сімвал жыцця. А жыццё, дабро і святло заўсёды ўсёпераможныя.

**Ала НІКІФОРСКАЯ**

# Паэзія лёду

У краіне з вялікай колькасцю лядовых палацаў рана ці позна мусіць з'явіцца кніга, падобная да кнігі Наталлі Ігнаценка «Как два брата спортсменами стали», тым больш — напярэдадні Чэмпіяната свету па хакеі.

Два браты, Сашка і Вова, сваёй неўтаймоўнай энергіяй давялі бацькоў да адчаю. Хлопчыкаў запісваюць у спартыўныя секцыі лядовага палаца, які па шчаслівай выпадковасці знаходзіцца побач. Сашка становіцца хакеістам, Вова — фігурыстам. Аўтарка апісвае сумненні і страхі хлопчыкаў, першыя няўпэўненыя крокі па лёдзе, поспехі і вось — кульмінацыя: браты пачынаюць спрачацца, які від спорту лепшы. Адбываецца таварыская спаборніцтвы, і ўрэшце мы прыходзім да высновы: у спорце «виды разные нужны, виды разные важны». У лядовы палац прыходзіць усё больш малечы, і тут, калі развіць думку аўтаркі, можа адкрыцца шырокі гарызонт з залатымі медалямі, славай і здаровай нацыяй.




Наталля Ігнаценка піша добрыя дзіцячыя вершыкі, бойкія, запамінальныя. «Как два брата спортсменами стали» — гісторыя цікавая, яна прывязаная да сучаснасці, рэалістычна апісвае пачуцці дзяцей. У самой тэме закладзена шмат магчымасцей.

Калі ж Наталля Ігнаценка адчуе жаданне напісаць працяг, можна прапанаваць ёй і такі варыянт: кароткія вершыкі пра забаўныя сітуацыі на лёдзе. А можа, распавесці новую гісторыю ў празаічнай форме…

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Пра цяжкасці выбару

Кніга Ніны Галіноўскай «Калі я шчаслівы» вельмі стракатая — як у сэнсе мастацкага афармлення, так і па змесце. Розныя жанры — скорагаворкі, вершыкі, казкі, жарты, небыліцы — задаволяць розныя густы.

Аднак мушу адзначыць, што кніга адрасуецца дзецям малодшага школьнага ўзросту. А для такой чытацкай аўдыторыі вельмі важная прастора, лёгкасць. Мы ж адкрываем кнігу і бачым, што ўся плошча аркуша запоўнена літарамі. Шрыфт дастаткова вялікі, але нават у «дарослых» паэтычных зборніках лічыцца за кепскі густ змяшчаць больш як адзін твор на старонку. Што казаць тады пра кнігу, якую мусяць чытаць самыя маленькія?

У вершах Ніны Галіноўскай ад пачатку адчуваецца моцны ўплыў мінулага. Дзеці ў яе тэкстах мараць быць хто будаўніком, хто рабочым, хто касманаўтам. Скажыце шчыра, дзе вы бачылі сёння хлопчыка, які марыць быць касманаўтам?.. Увогуле, даволі часта пісьменніца паказвае дзіця не такім, якое яно ёсць, але такім, якім яго хочуць бачыць дарослыя.

Зыходзячы з таго, колькі тэкстаў змешчана ў кнізе (а ў ёй больш як 150 старонак), прыходзіш да высновы, што Ніна Галіноўская мела на мэце сабраць пад адной вокладкай усё створанае для дзяцей, выдаць своеасаблівую аўтарскую анталогію.

Так, пісьменніца імкнецца перадаць у вершах сучаснасць, піша пра інтэрнэт, машыны і іншую атрыбутыку часу, але зноў жа — не варта рабіць з таго ж інтэрнэту дзіва: для дзяцей ён цудам не з'яўляецца. Ён такая ж бытавая з'ява, як, скажам, хлебарэзка. Але ж ніхто не піша вершаў пра хлебарэзку.

І потым, як вы думаеце: пры ўмове, што абодва тэксты




напісаныя добра, што выбера дзіця — твор пра сучаснасць, дзе героі раз'язджаюць на аўто, звязваюцца па тэлефоне і «сустракаюцца» ў скайпе, ці фэнтэзі, дзе героі скачуць на чорных конях, бачаць адно аднаго ў магічных люстрах і б'юцца на мячах?

А ўрэшце, калі пісьменнік таленавіты, ён і пра хлебарэзку напіша так, што зачытаешся.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**




# Погляд знізу

Віктар Ляскоўскі выдаў у серыі «Вясёлы калейдаскоп» кнігу «Зялёная Шапачка», і чытаецца гэтая кніга на адным дыханні.

Не таму, канечне, што яна змяшчае менш як 50 старонак, але таму, што радкі Віктара Ляскоўскага поўныя жыцця. Гэта не прапаганда: чысці зубы, еш кашу, слухай маму. Гэта не страшылкі з шэрагу "Саша быў дрэнны хлопчык і скончыў кепска". Гэта праўдзівыя, таму такія абаяльныя і прывабныя, гісторыі, якія пісьменнік распавядае не з пункту гледжання дарослых, а словамі саміх дзяцей. Гэта вялікае дасягненне — пісаць не *пра* і не *для* дзяцей (а многія так і робяць), але пісаць *ад* іх, быць самому вялікім дзіцём, якое не хоча станавіцца нудным дзядзькам з нуднымі рацыянальнымі поглядамі.

Фантазія і добры гумар — вырашэнне ўсякай праблемы. Асаблівы настрой у вершах стварае яшчэ і той факт, што герой часцей за ўсё — хлопчык. Часта між радкоў прасочваецца іронія аўтара, ён быццам бы намякае на тое, што паміж хлопчыкам і мужчынам не такая ўжо вялікая розніца. Паважнасць, з якой часам трымаецца маленькі герой, жаданне ў любой сітуацыі застацца пераможцам, каб не пацярпела мужчынская годнасць, забаўляюць нас і прымушаюць замілавана ўсміхацца. Напрыклад, як выйшаў з цяжкога становішча хлопчык, якога напалохаў індык? Тым больш што за гэтымі ганебнымі ўцёкамі назірала бабуля. Лёгка:

*«— И совсем я не пуглив, —*
*Отвечаю строго, —*
*Просто старше он, и я*
*Уступил дорогу».*

Пісьменнік агучвае нашыя жаданні, якія адны пакінулі ў мінулым, заняўшыся справамі сапраўды сур'ёзнымі (назапашванне маёмасці, выплачванне крэдыту, выхаванне дзяцей і мужа/жонкі), а іншыя песцяць у душы і дарослымі. Як сумна, напрыклад, вырошчваць на градках агуркі і моркву. Вось бы на іх месцы раслі шакаладкі!..

Аптымізм асвятляе ў кнізе кожны радок. І, відаць, самую сутнасць яе можна знайсці ў вершыку, які, дарэчы, даў назву кнізе — «Зялёная Шапачка». Аўтар, які не хоча змірыцца з трагічнымі падзеямі казкі, адным узмахам пераварвае чырвоную шапачку ў зялёную — і дзяўчынка праходзіць лес, не заўважаная драпежным зверам. Фантазія не толькі робіць жыццё больш-менш цярпімым, але можа і ўратаваць яго.

Непадробную сувязь з дзіцячым светам падкрэслівае і тое, што малюнкі да кнігі стварылі навучэнцы Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў. Малюнкі вельмі розныя, але вось у чым дзіва: ты гэта заўважаеш толькі тады, калі ўжо прачытаў кнігу і пачынаеш разглядаць яе наноў. Гэта значыць, што праца юных мастакоў сапраўды ўдалася, бо іх творы атрымаліся гарманічнымі — не толькі між сабою, але і датычна тэкстаў.

Словам, цудоўная кніга.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Водныя гісторыі




Назва чарговай кнігі казак Кацярыны Хадасевіч-Лісавой абяцае многае. «Казкі сівой даўніны». Калі чуеш пра сівую даўніну, нешта дрымучае пачынае абуджацца ў тваёй душы. Ва ўяўленні паўстаюць асілкі, непралазныя пушчы, лютыя звяры, цмокі з іх палымяным дыханнем… Усё гэта хвалюе. З гэтага выраслі самыя знакамітыя творы фэнтэзі, пачынаючы «Уладаром пярсцёнкаў» Толкіна і заканчваючы «Песняй лёду і полымя» Марціна. Такая назва — «Казкі сівой даўніны» — дае неабмежаваную волю.

Беларусы, як і ўсякі іншы народ, давалі многім з'явам прыроды антрапагеннае тлумачэнне. Адсюль растуць карані казак спадарыні Кацярыны. Пры пэўнай прадпрымальнасці гэтыя легенды можна ператварыць у турыстычную прыманку, але наколькі падобны сюжэт прыдатны для асобнай казкі?.. Ці можна з адной толькі метамарфозы, густа прыпраўленай мараллю, стварыць яскравую гісторыю? Магчыма, лепей было б прызапасіць гэтыя «водныя гісторыі» як элементы нечага большага. Напрыклад, выпісаць вобраз вандроўніка — вобраз заўжды выйгрышны, асабліва пры наяўнасці таленту, — які трапляе ў розныя авантуры і назапашвае крок за крокам вось такія легенды. Прыгадайце казку «Удовін сын»: той збягае з дачкой чараўніка, і яна кідае стужачку, якая ператвараецца ў раку. Мудры народ не стаў ператвараць гэты фрагмент у асобную гісторыю. Натуральна, Кацярына Хадасевіч-Лісавая мела іншую мэту — даць паэтычную трактоўку ўзнікненню пэўных вадаёмаў і зрабіць Беларусь больш таямнічай, зацікавіць дзяцей яе гісторыяй. Але паасобку, паўтаруся, гэтыя гісторыі не могуць стварыць эфект, да якога пісьменніца імкнецца. Нават Ян Баршчэўскі, наш даўні любімы казачнік, звяртаўся да ўскладненай кампазіцыі.

Як і ў ранейшых казках, асноўны матыў — матрыманіяльны. Усе беды ўзнікаюць на глебе непадзеленага жаніха. Магчыма, у жыцці дарослых гэта сапраўды мае вялікае значэнне, але баюся, што дзецям не заўжды будзе зразумела, за што ж б'юцца галоўныя гераіні.

Тут, напэўна, час звярнуцца да анатацыі, якая сцвярджае: «Калі ў вас жыве дух авантурызму, то гэтыя творы абавязкова прыйдуцца вам даспадобы». Я б напісала, што творы прыйдуцца даспадобы маленькім прынцэсам.

І гэта сапраўды так!

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Вецер гамоніць…

У РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» пабачыла свет кніга казак Уладзіміра Сітухі «Пра арэхі, сома і бабра», адрасаваная малодшым школьнікам.

Гэтага пісьменніка шырока ведаюць па кнігах «Дзікі анёл», «Час», «Генерал зямлі», «Аўтограф на ніве», «Акорды душы», «Скакуны», «Сваты», «Званы над Шкловам», «Акрылены верабей», «Споведзь пра Бядулю», «Аб Веры, Вернасці і Вечнасці»…

Няхітрыя на першы погляд сюжэты ў новай кнізе прыцягваюць увагу, прымушаюць пільна ўглядацца ў псіхалогію герояў. У адным з твораў бабёр не дае загінуць сарачанятам. Другі аповед — пра вавёрку, якая любіць ласавацца зярняткамі з яловых шышак. Трэцяя казка — пра мудрага сома, што выратаваў жыццё гарэзам-ментузам.

Уладзімір Сітуха ў кніжцы казак выяўляе сябе не толькі цікавым апавядальнікам, прыдумшчыкам, фантазёрам, ён тонка адзначае найболей важкія рысы характару казачных персанажаў, сцішана вымалёўвае педагагічны характар тых ці іншых учынкаў. А яшчэ старэецца так выбудаваць сюжэты, каб у працэс суаўтарства ўдзельнічалі юныя чытачы ці юныя слухачы яго твораў. Невыпадкова адна з казак мае наступную канцоўку: «І Дзед Мароз расказаў пра свае вандроўкі:

— Усіх насельнікаў лесу па слядах адшукаў я. Кожнага павіншаваў з Новым годам, толькі арэхі ў мяшку засталіся. Відаць, памылкова паклалі.

— Во, чуеш, Вецер гамоніць, што ўсё правільна, — уздыхнуў Дзед Мароз. — Разбярыся тут…

Спакваля Завея пачала больш падрабязна распытваць Дзеда Мароза пра вандраванне па лесе: каго бачыў, што чуў. І калі ён расказаў пра хвою, пад якой была церуха ад шышак, усміхнулася:

— Эх, дзядуля! Гэта ж і быў след. Не ўсе нашы лясныя жыхары селяцца на зямлі ці ў ёй.

— А-а-а, — узрадаваўся Дзед Мароз. — Цяпер разумею…

Ён падхапіў мяшок і пабегам скіраваў да той хвоі.

Каму ж ён панёс арэхі?..»

У сваіх казачных творах пісьменнік вельмі ўважлівы да з'яў прыроды, маляўніча апісвае краявіды роднай старонкі. У некаторай ступені казкі можна было б назваць прыродазнаўчымі. Мне здаецца, менавіта з такімі творамі настаўнік павінен прыходзіць да школьнікаў на ўрокі літаратуры, геаграфіі, прыродазнаўства. Чытаючы казкі Уладзіміра Сітухі, неўспадзеў прыгадваеш напісанае такімі вядомымі беларускімі пісьменнікамі, як Васіль Вітка, Рыгор




Ігнаценка, Віталь Вольскі. Менавіта яны выбудоўвалі сваю фантазію, казачныя сюжэты на глебе моцнай улюбёнасці ў родную прыроду.

Кніга казак «Пра арэхі, сома і бабра» прыгожа аформлена маладым кніжным графікам Ангелінай Вашчанка, вучаніцай Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў. Тыраж зборніка па сённяшнім часе немалы — 1600 экзэмпляраў.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Чулы знаўца народнай душы

## ПАМЯЦІ АНАТОЛЯ КУДРАЎЦА



Час — строгі і бескампрамісны суддзя. Гэта — аксіёма. У межах працяглага ці, як прынята гаварыць, «вялікага» гістарычнага часу вызначаецца, удакладняецца, карэкціруецца і рэальная існасць мастацкага патэнцыялу пісьменніка. Гэта зусім не азначае, што творчасць таго або іншага пісьменніка ў кантэксце бягучага літаратурнага працэсу з'яўляецца для даследчыка закрытай і недасягальнай. Тое, што сказалі, напрыклад, пра сваіх сучаснікаў-паэтаў і празаікаў М. Багдановіч ці М. Замоцін, многімі сваімі гранямі ўвайшло ў актыў навукі пра літаратуру як глыбока ўзважаная і неаспрэчная ісціна. Не трэба ў гэтай сувязі забываць і пра такіх вядомых рускіх крытыкаў, як В. Бялінскі, М. Дабралюбаў, М. Чарнышэўскі, Д. Пісараў, якія таксама здолелі ўбачыць у рухомай і зменлівай дынаміцы літаратурнага жыцця не падлеглыя адмаўленню і аспрэчванню ключавыя мастацкія з'явы і тэндэнцыі.

І ўсё ж такі *вялікае* і *значнае* ў больш поўным, дакладным і глыбокім сваім выяўленні бачыцца на адлегласці. Не з'яўляецца тут выключэннем і творчасць таленавітага беларускага празаіка Анатоля Кудраўца. Ён не быў абыдзены ўвагай, удумлівым ацэначным аналізам крытыкаў, літаратуразнаўцаў і калег-пісьменнікаў у той час, калі пачынаў свой творчы шлях. А гэта былі 60-я гады мінулага стагоддзя. Напісанае А. Кудраўцом трыццаць, сорак і болей гадоў таму не састарэла, не стала малацікавым літаратурным фактам для сённяшняй грамадскай і эстэтычнай думкі.

Дык што тое асноўнае і галоўнае, што ўтрымлівае творчасць А. Кудраўца ў рухомай плыні літаратурнага працэсу і надае ёй жыццядайную моц? У таленавітым мастацкім творы кожны яго кампанент выконвае пасвойму важную і незаменную функцыю. Але існуе і актыўна выяўляе і ў такім творы звычайна тая, у пэўным сэнсе *адзіная*, найважнейшая энергетычная сістэма, якая пакідае свой адбітак на кожнай структурнай часцінцы *агульнай* літаратурнай мадэлі, няспынна падсілкоўвае аўтарскую задуму і з'яўляецца самым дзейсным аргументацыйным яе спадарожнікам ад пачатку сюжэтнага дзеяння да поўнага завяршэння. Ф. М. Дастаеўскі назваў гэту энергетычную літаратурную сістэму адным важкім словам — *мастацкасць*.

Не апошнюю ролю ў літаратурнай працы адыгрывае і сам факт выхаду пісьменніка на актуальную, запатрабаваную жыццём тэматыку і праблематыку. Але гэту з'яву хутчэй за ўсё трэба разглядаць як прэамбулу, прадмову да галоўнага творчага дзеяння — пошуку мастацкіх сродкаў і прыёмаў, якія гэтыя тэмы і праблемы ўзнялі б на высокі ўзровень чалавеказнаўства і жыццязнаўства. Нярэдка, як мы ведаем, слабыя, нямоглыя ў мастацкіх адносінах, але кан'юнктурна скіраваныя на актуальнае кола грамадскіх задач творы знаходзілі ў крытыцы і літаратуразнаўстве сваіх заўзятых прыхільнікаў і абаронцаў. Такіх з'яў у сусветнай і нацыянальнай літаратурнай гісторыі нямала.

Літаратурна-грамадскі час у сваім развіцці і няспынным руху ў многім змог развітацца з той уяўнай літаратурай, а дакладней кажучы, літаратуршчынай, што ў асобе сваіх адэптаў усялякі спрабавала даказаць магчымасць яе функцыянавання не дзесьці на ўзбочыне, а на першых ролях мастацкага працэсу. Амаль пры адсутнасці ў іх пульсу мастацкасці. Дапушчальна, што сваю ўхвалу *часу* А. Кудравец выказвае якраз за тое, што *час*, як няўмольны садоўнік, рана ці позна мусіць сказаць сваё важкае слова і дапамагчы вечназялёнаму дрэву жыцця пазбавіцца ад усохлых галінак.

Як паставіцца «вялікі» літаратурна-грамадскі і гістарычны час да мастацкіх твораў А. Кудраўца ў далёкай перспектыве, сказаць дакладна на сённяшні дзень, відаць, нельга. Але ёсць сур'ёзная падстава для аптымістычнага спадзеву, што многія творы пісьменніка застануцца ў літаратурным і літаратуразнаўчым актыве, бо жыццёвая рэальнасць знаходзіцца тут на трывалым падмурку мастацкасці.

Мастацка-вобразны інструментарый А. Кудраўца патрабуе спецыяльнай даследчыцкай увагі. Дзякуючы такому падыходу адкрываецца магчымасць, як нам уяўляецца, яшчэ глыбей зразумець не толькі індывідуальную адметнасць, індывідуальны характар стылёва-жанравай манеры пісьменніка, але ў больш поўным і аб'ёмным ракурсе ўбачыць і агульны тыпалагічны малюнак асобных эстэтычных з'яў, літаратурных законаў паэтыкі беларускай літаратуры.

Як ні дзіўна, у нашым літаратуразнаўстве (ды і ў навуцы пра літаратуру суседніх краін) да дня сённяшняга адсутнічаюць грунтоўныя даследаванні, у якіх бы з больш ці менш дакладнай паўнатой акрэслівалася жанравая структура аповесці. Напісана шмат цікавых і глыбокіх прац пра раман і апавяданне, а жанравая спецыфіка аповесці па-ранейшаму ў многім застаецца расплывістай і няпэўнай у сваіх выключэннях і фармулёўках. Нярэдка аповесць папросту называюць сярэдняй формай эпічнай прозы, што знаходзіцца дзесьці пасярэдзіне паміж раманам і апавяданнем. Такое вызначэнне, як рабочая метадалагічная тэза, безумоўна, мае права на існаванне ў літаратуразнаўчым ужытку і ў нейкай меры можа быць прызнана карыснай метадалагічнай падмогай у мастацкай практыцы.

Падобны пункт погляду ў асноўным прымае, напрыклад, вядомы рускі вучоны-гуманітарый, публіцыст-філосаф, крытык і літаратуразнаўца В. Кожынаў. Але асноўны даследчыцкі інтарэс тут, на яго думку, павінен быць сканцэнтраваны на пошуку магчымасцей «аб'яднаць і звязаць два розных погляды на аповесць — як сярэднюю форму эпічнай прозы і як асобую жанравую форму». Прытым у гэтым пошуку вызначальных жанравых асаблівасцей аповесці галоўны акцэнт ён робіць не на колькасным моманце, не на аб'ёме і памеры твора, а на своеасаблівасці яго мастацка-вобразнай структуры.

З меркаваннем В. Кожынава пераклікаецца заўвага вядомага рускага літаратуразнаўца В. Захарава, які лічыць, што жанравая форма ў таленавітага пісьменніка з'яўляецца, апрача ўсяго, «катэгорыяй літаратурнага мыслення».

Тэарэтычная і наогул даследчыцкая думка крытыка і літаратуразнаўца звычайна выходзіла на глыбіні аналітыкі і абагульненняў, абапіраючыся на лепшыя творы, на трывалы грунт *мастацкасці*. І гэта адступленне зроблена для таго, каб падкрэсліць, што ёсць чаму павучыцца ў А. Кудраўца пры неабходнасці выяўлення і вызначэння адметных і тыпалагічных асаблівасцей жанравай формы мастацкага твора. Калі б, да прыкладу, ён не напісаў нічога болей, апроч аповесці «Раданіца», то і тады б у нас была сур'ёзная падстава сцвярджаць, што ў дзейсным актыве нашай літаратуры знаходзіцца таленавіты і арыгінальны твор, дзе структурна-жанравая мадэль выконвае не толькі функцыю прасторы, «плацдарма» для сюжэтнага дзеяння, але эфектыўна ўключана і ў аргументацыйную, пазнавальна-адлюстравальную сферу пастаўленых тут задач і пытанняў. Гэты твор, лічу, без усякага перабольшання можа заняць ганаровае месца ў дружалюбным эстэтычным суседстве з аповесцямі В. Быкава і іншымі творамі, у якіх жанравая форма з'яўляецца яркім паказчыкам *своеасаблівага* і *спецыфічнага* выяўлення характару эпічнасці.

На высокім узроўні мастацкасці функцыяніруюць у творах А. Кудраўца дыялог, унутраны маналог, няўласна-простая мова. Гэтыя асаблівасці пісьменніцкай паэтыкі ў тонкіх і рэльефных псіхалагічных і мастацка-вобразных малюнках выступаюць, напрыклад, у рамане «Пасеяць жыта», прымаючы на сябе галоўную ролю ў раскрыцці чалавечых характараў. Спецыяльным прадметам даследавання мог бы стаць у творах А. Кудраўца багаты і шматфарбны свет пейзажаў. Даследчыцкай увагі заслугоўвае і многафункцыянальны ў сваім падтэкставым характарыстычным значэнні патэнцыял мастацкіх дэталяў. Такі паглыблены і пашыраны падыход да вывучэння *мастацкасці* ў творах пісьменніка, безумоўна, паспрыяе выяўленню адметнага і агульнага ў яго метадалагічнай сістэме і вызначэнню ключавых адзнак *народнасці* як сацыяльна-псіхалагічнай, грамадскай і эстэтычнай з'явы.

Праблема народнасці ў тых або іншых мастацкіх праявах зместу і формы, можна сказаць, ніколькі не знаходзілася на другарадных кірунках развіцця гуманістычных, дэмакратычных і прафесійна высокіх літаратурных тэндэнцый. Прытым гэты рух набываў у літаратуры ажыўленне формы ў гады падступаў да вырашэння і асэнсавання пытанняў, якія новы час у ранейшым іх разуменні і ранейшых ацэначных трактоўках і вызначэннях не прымаў. Такая сітуацыя складвалася, да прыкладу, у другой палове мінулага стагоддзя. У мастацкай літаратуры і літаратуразнаўстве паступова наспявала, шырылася і шукала новыя шляхі думка, крытычна настроеная да жорсткай нарматыўнасці тэорыі сацыялістычнага рэалізму.

Менавіта ў гэты час у рускай літаратуры з'яўляюцца такія творы, як «Развітанне з Мацёрай» (1976), «Апошні тэрмін» (1970) В. Распуціна, «Прывычная работа» (1966), «Цяслярскія апавяданні» (1968) В. Бялова, «Вясковыя коні» (1969), «Палагея» (1969) Ф. Абрамава, «На Іртышы» (1964) С. Залыгіна і інш., дзе важную, а часта і першарадную ролю на праблемным полі сюжэтнага дзеяння бярэ на сябе просты чалавек, а ў нярэдкіх выпадках пажылыя і старыя, якія маюць вялікі жыццёвы досвед.

Некаторым крытыкам, ды і асобным прадстаўнікам з высокіх інстанцый чыноўніцкага асяродку, здавалася неправамерным залішне пашыраць прастору дзеяння ў літаратуры чалавеку сціплага сацыяльна-псіхалагічнага статусу, бо яму, гэтаму чалавеку, нібыта не пад сілу асэнсаванне і вырашэнне тых складаных задач і пытанняў, якія ставіла і дыктавала жыццё. Аднак у саміх пісьменнікаў была на гэты конт іншая думка, і яе даволі дакладна і проста сфармуляваў В. Распуцін: «Мае гераіні, старая Ганна з «Апошняга часу» і старая Дар'я з «Развітання з Мацёрай», могуць камусьці з сучаснікаў здацца няшчаснымі стварэннямі, што ўвесь век прасядзелі на месцы нараджэння ў глухім куце, не спазнаўшы здабыткаў цывілізацыі. Адсюль, маўляў, іх дапатопныя суджэнні пра рэчы, пра якія не прынята гаварыць, да прыкладу, пра сумленне, пра веру, пра адказнасць, адсюль іх наіўная ўдзячнасць жыццю. Але ў вас ёсць час, праверце, куды скіроўвае ўвагу чалавек у пераломныя і крытычныя моманты, да чаго звяртаецца? Да іх, да гэтых паняццяў, як бы ні зніжалася ў грамадстве іх цана, як бы над імі ні насміхаліся...»

На хвалі глыбокага *народнага інтарэсу* знаходзілася ў той час, калі выходзілі з друку вышэйназваныя творы вядомых рускіх пісьменнікаў, і мастацкая думка А. Кудраўца. Невыпадковым успрымаецца і яго пераклад на беларускую мову аповесці С. Залыгіна «На Іртышы», якая прысвечана адлюстраванню складаных падзей вясковай рэчаіснасці 1930-х гадоў.

Блізкая і сугучная пісьменніцкаму таленту А. Кудраўца праблема народнасці як грамадская сацыяльна-псіхалагічная і эстэтычная з'ява раскрываецца ў яго творчасці шматпланава. Але вымалёўваецца тут і пэўнае тыпалагічнае ядро, якое канцэнтруе ў сабе галоўныя аспекты аўтарскай задумы і аўтарскага інтарэсу. А. Кудравец амаль заўжды, у якім бы кірунку ні паварочвалася сюжэтная лінія яго твораў у адлюстраванні народнага жыцця, народных характараў, народнай псіхалогіі, бадай што заўсёды клапоціцца, каб гэтыя лініі на нейкіх вузлавых напрамках мастацкай думкі сыходзіліся і ў адкрытых ці падтэкставых формах падводзілі чытача да вываду, што прысутнасць народнага голасу ў той або іншай жыццёвай сферы і сітуацыі — гэта і важны адбітак сацыяльна-псіхалагічнай рэальнасці, і сур'ёзны, у многім непрадузяты і незаменны ацэначны крытэрый.

А. Кудравец валодае бясспрэчным мастацкім талентам спалучаць у цеснай сюжэтна-кампазіцыйнай повязі звычайнае з незвычайным, звыклае і непрывычнае, бытавое і ў чымсьці нават заземленае з быційным і філасофскім аспектамі жыцця. У яго аповесці «Раданіца» ярка і запамінальна адлюстравана штодзённая плынь жыцця беларускай вёскі 60 — 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Але гэтыя аспекты рэальнасці не самазамкнёныя ў сваім руху і выяўленні. Моцна і трывала знітаваны з побытавым пластом жыцця чалавек тут спрабуе, а часта ўпарта і настойліва імкнецца, адысці ўбок, адшукаць нейкае ўзвышша і паглядзець, а што ж адбываецца там, «за гарызонтам», каб лепей зразумець сітуацыю зблізку і навокал самога сябе. Пазіцыю сваіх герояў А. Кудравец вітае і ўсяляк пабуджае іх не абмяжоўваць свой кругагляд геаграфічнай і побытавай прасторай уласнай вёскі. Герой рамана А. Кудраўца «Пасеяць жыта» Ігнат Сцяпанавіч Вапшчэткі неўпрыкмет, нязмушана пераключае многія размовы-дыялогі са сваім юным выхаванцам з аднаго плана ў іншы, з побытавага кантэксту ў сферу, найбольш зближаную з быційным, філасофскім кантэкстам рэальнасці.

Пра А. Кудраўца не скажаш, што ён разлічвае на нейкія заземлена-патрыярхальныя маральна-этычныя высновы як усеахопны, універсальны і бясспрэчны метадычны і метадалагічны грунт. Але з ім нельга не пагадзіцца, калі ён адлюстроўвае і акцэнтавана падкрэслівае, што грамадства ў сваіх праектах, задумах і памкненнях да высокай мэты можа падсцерагаць пагроза, сур'ёзная небяспека збіцца на шлях аднабаковасці, схематызму, ружовага ілюзіянізму і наогул панесці вялікія ці нават непапраўныя страты, калі яно паспешліва пачне адкідаць убок *компас народных* арыентацый, духоўна-інтэлектуальны патэнцыял ацэнак, поглядаў і меркаванняў звычайнага, простага чалавека і перастане прыслухоўвацца да голасу народнай памяці і народных традыцый. Улічваць гэта, на думку А. Кудраўца, прынцыпова неабходна пісьменніку, калі ён наважыўся сказаць у сваёй творчасці новае слова і ўзняцца на больш высокую прыступку мастацкага дыялогу з чытачом.

Менавіта ў такім ключы прачытваецца напісаны ім літаратурны партрэт свайго калегі, вядомага празаіка А. Жука «Сны пра маму». А. Кудравец буйным планам вылучае ў творчасці гэтага пісьменніка апавяданне «За белым светам», у якім выразна акрэслены псіхалагічны корань характару чалавека неардынарнага, не падобнага да іншых, чэснага і адчайнага. Такі чалавек імпануе і А. Кудраўцу паваротам яго псіхікі ўбок самасцвярджэння, самазахавання як асобы, імкненнем «пераадолець сябе, каб знайсці сябе, не згубіцца ў свеце бязвольнасці і пакоры». Але ў сваіх імкненнях да самадэтэрмінацыі і гэтаму чалавеку, паводле слоў пісьменніка, ніколі не трэба забываць пра важныя духоўныя пункты апоры. «І чым вышэй узбіраешся, — заўважае ён, — тым большая і ўпэўненая патрэбна табе апора...»

Васіль ЖУРАЎЛЁЎ

*Паралелі*

# На скрыжаванні жанраў

У сістэме літаратуразнаўства як навукі крытыцы адводзіцца, з аднаго боку, дакладная дзялянка — асвятленне і аналіз бягучага літаратурнага працэсу, але з іншага боку, форма прадстаўлення вынікаў гэтага аналізу акрэсліваецца досыць цьмяна. У якім жанры мусіць працаваць крытык? На якія выданні і творы звяртаць увагу, а якія ігнараваць? Ды і зрэшты, хто мае права звацца гучным словам «крытык»?

Зразумела, што адназначна і коратка на гэтыя пытанні адказаць немагчыма. Усё залежыць ад часу, у які пішацца крытыка на пэўны твор, выдання, у якім друкуецца, і, як апынулася, ад краіны, дзе адбываецца той самы сегмент сусветнага літаратурнага працэсу. То бок рэцэнзіі на адну і тую ж кнігу, напісаныя, да прыкладу, у Чэхіі і Швецыі, будуць кардынальна рознымі. Чаму так? Пра гэта і пра многае іншае на семінары для маладых літаратурных крытыкаў, што ладзіўся Беларускім ПЭН-цэнтрам пры падтрымцы сайта *bookster.by*, распавядалі госці з-за мяжы. Таму знаёмцеся: прафесар Карлавага ўніверсітэта, чэшскі культуролаг, даследчык літаратуры і пісьменнік Марцін Путна і пісьменніца, літаратурны крытык са Швецыі Інга-Ліна Ліндквіст.

## «ЗА ЧЫСЦІНЮ ЛІТАРАТУРНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ!»

Марцін Путна доўгі час быў актыўным літаратурным крытыкам, пісаў рэцэнзіі на кнігі, мадэрыраваў дыскусіі, быў ініцыятарам многіх гучных «сварак пра літаратуру» ў прэсе. З мэтай абвергнуць (ці пацвердзіць) тэзу «на сваіх не сварацца» і даказаць, што «крытык існуе», распрацаваў адмысловую анкету. Каб чытач ведаў, хто піша рэцэнзію, аўтар тэксту мусіў адказаць на пытанні кшталту: ці знаёмы крытык з аўтарам асабіста? Ці ёсць у іх агульныя сябры? Да якой літаратурнай групоўкі належыць крытык? Пасля выдання свайго першага рамана спадар Марцін перайшоў на іншы бок: стаў пісьменнікам і даследчыкам гісторыі літаратуры.

**— Спадар Марцін, чаму вы лічыце, што аўтар раманаў не мае права пісаць літаратурную крытыку?**

— Натуральна, афіцыйна такое права ён мае і можа пісаць, што хоча. Але мне падаецца, што ў такім выпадку чалавек знаходзіцца на скрыжаванні інтарэсаў. Той, хто піша раманы, займаючыся крытыкай, звяртае ўвагу на працу сваіх канкурэнтаў. Гэта, мне падаецца, па-за межамі крытычнай этыкі, як я яе разумею. Калі пішаш раманы, то ў сваёй дзейнасці, творчасці ты спаборнічаеш з іншымі ў тым жа жанры, а не ў жанры крытыкі. Але, зразумела, у гісторыі чэшскай літаратуры заўсёды здаралася і здараецца, што адны і тыя ж людзі пісалі і крытыку, і мастацкую прозу, і паэзію. Але я за чысціню дзейнасці ў літаратуры.

**— Існуе меркаванне, што крытычны артыкул павінен быць таксама літаратурным творам. Ён мусіць хаця б проста цікава чытацца…**

— Сапраўды, той, хто піша пра літаратуру, мусіць быць здольным пісаць літаратуру. І ў крытыцы таксама мусіць прысутнічаць аспект мастацкасці. Калі гэта крытыка для часопіса, а не тэарэтычны літаратуразнаўчы аналіз, то яна павінна змяшчаць эстэтычныя літаратурныя якасці. Такі тэкст мусіць несці не толькі інфармацыю, але і задавальненне ад чытання. Хаця б проста як асалоду ад добрага тэксту.




**— У сваёй лекцыі вы распавялі пра шляхі, якія прайшла чэшская літаратурная крытыка ў сваім развіцці, і спосабы аналізу тэкстаў, што былі модныя і запатрабаваныя ў розны час, у тым ліку структуралізм, марксісцкую крытыку. Але ж прагучала і думка, што метад аналізу мусіць дыктавацца асаблівасцямі самога тэксту.**

— У асноўным сапраўды так. Філолаг павінен навучыцца розным метадам аналізу. І, па-мойму, кожны твор, эпоха, калі ён быў напісаны, самі дыктуюць метады, што ім найбольш падыходзяць. Да прыкладу, каталіцкі свяшчэннік піша больш як сто кніг пра сябе, сваю маці, сваю маленькую сястру, якая загінула, пра жанчын, якіх ён кахаў… Калі характар творчасці аўтабіяграфічны, то ён проста патрабуе глыбокага псіхалагічнага аналізу. Натуральна, тут можна выкарыстоўваць і метад структуралізму, аналізаваць сказы, якія аўтар выкарыстоўваў у тэксце. Але, зрэшты, што з гэтага атрымаецца?

**— У вас ёсць любімыя аўтары, пра якіх вы з задавальненнем пісалі крытычныя артыкулы?**

— Вядома. Да прыкладу, з антычнай літаратуры мне падабаецца творчасць Вергілія. Я пісаў пра «другое жыццё» яго творчасці — а менавіта водгулле тэкстаў і ідэй у літаратуры і філасофіі Рэнесансу. Падабаецца і творчасць Фрыдрыха Гёльдэрліна, нямецкага паэта-рамантыка. Яго вобразнасць засноўваецца на антычнасці. Але ён не класіцыст па стылістыцы, а рамантык. Тут антычнасць — светлы, рацыянальны, класічны лад жыцця. Мяне захапляюць і некаторыя чэшскія аўтары. У першую чаргу, гэта паэт, якога па-за межамі нашай краіны амаль ніхто не ведае, — Багуслаў Рэйнэк. Ён пры жыцці быў абсалютным маргіналам, жыў з сям'ёй на сваёй сядзібе. Да прыходу камуністаў крыху публікаваўся, але нават тады на яго тэксты ніхто не звяртаў увагі. Потым яго забаранілі як паэта духоўнага. Цяпер Багуслаў Рэйнэк, яго паэзія і графіка становяцца моднымі. Мне не вельмі гэта падабаецца, бо ён паэт цішыні. Ды сёння пра яго пачынаюць нават крычаць! Мяне прываблівае і чэшскі андэграўнд 1970 — 80-х гадоў, дзе, як ні дзіўна, таксама былі духоўныя рэлігійныя паэты. Але іх рэлігійнасць зусім не традыцыйная: тут малітвы могуць знаходзіцца побач з вульгарызмамі. Але ў спалучэнні ўсё гучыць абсалютна шчыра і натуральна.



## ПРА КНІГІ РАСКАЖУЦЬ… ПІСЬМЕННІКІ

У адрозненне ад прафесара Марціна Путны, які, напісаўшы кнігу, скончыў кар'еру крытыка, спадарыня Іна-Ліна Ліндквіст, паспяховы аўтар і досыць вядомы літаратурны крытык, зусім не думае пераходзіць толькі на адзін бок. У Швецыі нават так прынята: пра кнігі мусяць пісаць у асноўным пісьменнікі.

Як распавяла спадарыня Іна-Ліна, на старонках шведскіх газет, на радыё і ў асобных праграмах тэлебачання асабліва вялікую ўвагу звяртаюць на кнігі дэбютантаў і папулярных класікаў. Адметна, што літаратурную крытыку ствараюць пісьменнікі — гэтая традыцыя ідзе з даўніх часоў, але заўсёды актыўна абмяркоўваецца. Тым не менш існуюць і пэўныя абмежаванні. У той год, калі ў пэўнага аўтара выходзіць кніга, яму нельга пісаць рэцэнзіі. Нельга пісаць пра кнігі знаёмых, сяброў, сваякоў, а таксама пра прадукцыю таго выдавецтва, з якім супрацоўнічае сам рэцэнзент.

Працэс наладжаны наступным чынам: два разы на год рэдакцыя газет атрымлівае ад выдавецтваў каталогі навінак на сезон. Гэта анонсы кніг, што мусяць выйсці восенню і вясной. Такія каталогі атрымліваюць і крытыкі, што супрацоўнічаюць з пэўнымі выданнямі. На аснове сваіх уласных зацікаўленасцей і пераваг рэцэнзенты выбіраюць выданні, што маркуюць прааналізаваць у асобным матэрыяле. У гэтым жа каталогу пазначаны і пэўны дзень, калі ў прэсе мусяць пачаць выходзіць рэцэнзіі на кожную кнігу. Праз некаторы час, калі ўсе перавагі вызначаныя, крытык атрымлівае ад рэдакцыі замову на рэцэнзію адной з абраных кніг.

Што павінна быць у такой рэцэнзіі? Ужо доўгі час ідуць спрэчкі пра тое, ці варта падрабязна пісаць, пра што кніга, пераказваць яе сюжэт. У пэўных выданнях гэта проста абавязковая ўмова, але некаторыя крытыкі стараюцца цалкам ад гэтага правіла адыходзіць, звяртаючы больш увагі на мастацкія адметнасці тэксту, традыцыі, жанр. Важна таксама паставіць кнігу ў пэўны кантэкст, распавесці і пра ўласныя ўражанні ад выдання. Нельга займаць дыпламатычную пазіцыю і пісаць пра нейтральныя ўражанні. Калі гаворка ідзе пра пераклад, рэцэнзент мусіць звярнуць увагу на ўнёсак перакладчыка, якасць яго працы.

Літаратурныя крытыкі сёння часта кажуць пра феномен скандынаўскага крымінальнага рамана. Гэтыя творы, з простай мовай, але вострым сюжэтам, якія распавядаюць захапляльную гісторыю, вельмі добра прадаюцца і прыносяць аўтару немалы прыбытак. Ім супрацьстаяць эксперыментальныя раманы, у аснове якіх — гульня са стылем, мовай. Таму для рэцэнзента важна распавесці чытачу, што ён пабачыць пад вокладкай — гісторыю ці моўны эксперымент. Калі гэта эксперымент, то наколькі ўдалым ён атрымаўся. Ёсць нават цікавы прыклад. Доўгі час праграму пра літаратуру на тэлебачанні вёў пісьменнік, які калісьці вельмі ўдала дэбютаваў з эксперыментальным раманам. Не так даўно ён звольніўся з працы і ўжо пад псеўданімам стаў пісаць папулярныя дэтэктывы з простай мовай.

Для каго крытыкі пішуць рэцэнзіі?

На гэтае пытанне спадарыня Іна-Ліна дае некалькі адказаў:

— Часта для саміх жа рэцэнзентаў, якія, самі з'яўляюцца пісьменнікамі, і проста параўноўваюць уражанні ад пэўнага тэксту. Для пісьменнікаў гэта пэўнага кшталту адказ на тое, ці атрымалася ў яго аказаць патрэбнае ўражанне на чытача, данесці нейкую ідэю. Але рэцэнзія пішацца і для чытача, таму важна паставіць кожную кнігу ў кантэкст, параўнаць з іншымі выданнямі і творамі, якія ўжо могуць быць знаёмымі публіцы. Чым больш вострай і правакатыўнай атрымліваецца рэцэнзія, тым лепш.

Неяк адно выданне рэалізавала вельмі цікавы праект. Побач з самім тэкстам рэцэнзіі публікаваліся фотаздымкі старонкі кнігі з тымі пазнакамі і заўвагамі, якія крытык зрабіў на палях падчас чытання. Думаецца, гэта выдатны спосаб прадставіць чытачу не толькі вынік працы крытыка — тэкст, але і працэс працы з кнігай.

Апроч культурных частак газет, дзе друкуюцца рэцэнзіі на кнігі, у Швецыі карыстаюцца папулярнасцю кніжныя блогі, аўтарамі якіх з'яўляюцца прыватныя аглядальнікі. Яны кіруюцца ўласнымі густамі пры выбары твораў, але найбольш папулярным блогерам выдавецтвы таксама дасылаюць кнігі для агляду. Такая праца ў большай ступені арыентавана на чытача, то бок непасрэднага спажыўца.

Адметна, што калі пра прозу пішуць пісьменнікі, то аўтарамі рэцэнзій на паэтычныя кнігі мусяць быць паэты ці літаратуразнаўцы. Лічыцца, што толькі паэт можа цалкам зразумець паэта, а літаратуразнаўца здольны патлумачыць чытачу аўтарскую задумку. «Вышэйшым пілатажам» справы лічыцца, калі ў аўтара праз мову крытычнага артыкула атрымліваецца паказаць мову кнігі. Важна, што культурныя выданні ў цэлым аддаюць перавагу шведскім аўтарам, а на пераклады звяртаюць крыху менш увагі.

Раз на тыдзень у буйных газетах выходзяць агляды дзіцячых кніг. Гэта вельмі прэстыжныя матэрыялы, бо і самі кнігі для дзяцей займаюць досыць важкую нішу ў літаратурным працэсе краіны. Рэцэнзіі на гэтыя выданні таксама пішуць спецыяльныя крытыкі, здольныя ацаніць якасць малюнкаў, а таксама паказаць педагагічны кантэкст, у якім можа ўжывацца пэўнае выданне для бацькоў, настаўнікаў і бібліятэк.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота Алены Казловай**
**і з сайта bookster.by**

# Каханне непазбежнае: філасофія жаночага рамана

## ПРОСТЫЯ ФОРМУЛЫ ДЛЯ ЧЫТАЧА І ПІСЬМЕННІКА

Адметны літаратурны жанр, жаночы, або любоўны, раман не можа выклікаць нейтральнае стаўленне. Нехта шчыра любіць такія кнігі, захапляецца іх смелымі героямі, прыгожымі гераінямі і з нецярпеннем чакае новых твораў ад прызнаных майстроў жанру. Хтосьці ж, наадварот, за вярсту абыходзіць кніжачкі, на вокладках якіх прывабныя жанчыны абдымаюцца з гарачымі мужчынамі, абураецца, калі ў кагосьці ў руках бачыць такое выданне, і клянецца, што ніколі ў жыцці сам не возьмецца за гэтае чытво. Трэцяга меркавання, здаецца, не бывае. Усё або нічога.




Ды як бы там ні было, індустрыя выдання і продажу кніг пра каханне не пакутуе на недахоп грошай. Знаходзяцца аўтары, выдаўцы і чытачы. Усё працуе, як зладжаны гадзіннікавы механізм. Аўтары пішуць шмат. Выдаўцы друкуюць вялікія наклады танных асобнікаў. Чытачы набываюць. Чытаюць. Захапляюцца. Знаходзяць у такіх кнігах лекі ад дэпрэсіі, суцяшэнне ў складаных жыццёвых сітуацыях, параду. Ці проста прыемна бавяць час у грамадскім транспарце, на лецішчы, у адпачынку.

Кажуць, што беларускія аўтары не пішуць кніг такога кшталту. І што нам увогуле бракуе лёгкага чытва для адпачынку. Можа, і праўда. Нестае часу, не жадаюць «апускацца» да ўзроўню «раманчыка», не бачаць мэтавай аўдыторыі, не ведаюць, як пісаць, бо самі не знаёмыя з падобным чытвом... Думаецца, тут можна дапамагчы. І нагода ёсць добрая — выхад новага рамана папулярнай расійскай пісьменніцы. Разабраны па дэталях, ён можа стаць выдатным прыкладам для аўтара і карысным арыенціцрам для чытача.

Кнігу **Кацярыны Вільмонт «Шалый малый»**, што выйшла не так даўно пры падтрымцы ТАА «Харвест», я не выпадкова прапаноўваю ў якасці ўзору. Тут працуе некалькі фактараў. Навізна выдання і хуткасць водгукаў ад чытачоў, характэрнасць элементаў, а таксама імя аўтаркі. Не падумайце, я не фанатка жанру. Але чаго не зробіш дзеля эксперымента? Гэты раман я прачытала і гатовая падзяліцца назіраннямі.

**Кампанент 1. Імя аўтара.** Досыць стандартнае патрабаванне для літаратурнага твора. Другі, трэці, чацвёрты раман пісьменніка набудуць з большай цікавасцю і ахвотай, чым першы, пры ўмове, што дэбют не стаў крахам і правалам. З пісьменніцкай гісторыяй Кацярыны Вільмонт усё выдатна. Як кажуць, тут ужо «залікоўка працуе на студэнта». Прыхільнікі знаёмыя з яе стылем, ведаюць папярэднія кнігі. Ім надзвычай імпануе той факт, што сама аўтарка апроч уласнай творчасці займаецца перакладамі з нямецкай мовы, а значыць, з'яўляецца досыць адукаваным і эрудзіраваным пісьменнікам, якому можна верыць. Таму і не дзіўна, што ў інтэрнэт-кнігарнях ужо з'явіліся водгукі кшталту «пабачыла новую кнігу гэтай пісьменніцы і адразу набыла».

**Кампанент 2. Удалае афармленне вокладкі і цікавая назва.** Як ужо падкрэслівалася вышэй, выява мужчыны разам з жанчынай стандартная для такога жанру. Гэта як знак: героі абавязкова будуць разам, ды і чытач(-ка) абавязкова знойдзе сваё каханне, калі дагэтуль яго не мае. Такая візуалізацыя працуе на карысць і выдаўца, і чытача. У дадзеным выпадку перад намі рамантычны, нават сентыментальны варыянт: закаханыя танцуюць, вакол іх адчуваецца атмасфера радасці, шчасця і задаволенасці тым, што адбываецца. Упэўнена, чытач таксама не расчаруецца. Што да назвы, яна павінна і прываблівяць (прыгадайце, самі не раз выбіралі кнігу ці фільм выключна кіруючыся сімпатычнай назвай), і заставацца загадкай. Беручы ў рукі кнігу з назвай «Шалый малый», можна быць пэўнай толькі ў адным: сумна не будзе.

Гэта былі знешнія фактары, якія дапамогуць прывабіць чытача і прымусіць яго ўзяць у рукі кнігу. Калі атрымалася, то віншую: палова справы па здабыванні поспеху зроблена. Аднак праца над першымі двума пунктамі, як уводзіны да дыплома ці дысертацыі, звычайна робіцца ў самым канцы, калі работа ўжо гатовая. Таму звернемся да таго, што мусіць быць пад вокладкай.

**Кампанент 3 (самы галоўны). Гераіня.** Ад рашэння, якой яна будзе, залежыць поспех кнігі. Будзьце асцярожнымі! Менавіта ёй будуць спачуваць усе чытачкі, ёй будуць суперажываць, параўноўваць яе лёс са сваім і, калі хочаце, асацыіраваць яе з сабой. Ад таго, якой яна будзе: добрай ці злой, разумнай ці не надта, высокай, тоўстай, адукаванай — залежаць асноўны настрой і эмоцыі, што ўзнікаюць падчас чытання. Лепш, калі гэтыя эмоцыі станоўчыя. Пагадзіцеся, у паўсядзённым жыцці ў жанчын і так хапае клопатаў і негатыву. За кнігай пра каханне трэба адпачываць. У яе рэальнасць трэба ўцякаць, хавацца. Памятайце, сёння мала зрабіць гераіню проста прыгожай, нават вельмі прыгожай. Мала сказаць, што толькі ад яе выгляду ўсе мужчыны вакол губляюць галаву. У сучасным свеце правільная Гераіня мусіць быць не толькі і нават не столькі прыгожай, колькі разумнай, самастойнай, паспяховай ва ўласнай справе. Мужчына для яе — не галоўная мэта ў жыцці, а толькі спадарожнік, які падтрымлівае і дазваляе не адчуваць сябе адзінокай. А замужжа — зусім не абавязковае.

Да прыкладу, Гераіня Кацярыны Вільмонт — цалкам правільная. Яна прыгожая. Модны фларыст. Калісьці моцна закахалася ў мастака і ўцякла разам з ім у Францыю. Там вучылася і толькі потым вярнулася на радзіму, ужо з дыпломам знакамітай школы фларыстыкі. Мае ўласны бізнес па афармленні святочных мерапрыемстваў.

**Кампанент 4. Герой.** Напэўна, другі па значнасці ў агульным палатне расповеду. Бо менавіта з ім у выніку будзе разам Гераіня. Ён абавязаны быць яшчэ больш станоўчым, чым яна. Абавязкова з адметнай рысай: яркімі вачыма, прыгожымі рукамі ці шнарам на шчацэ. Менавіта ў яго мусіць крыху закахацца (ну ці хаця б моцна яму сімпатызаваць) і чытачка. Сустрэча Героя з Гераіняй не выпадковая. Яны нібыта прызначаныя адно аднаму лёсам і проста абавязаны быць разам.

Расійская пісьменніца выдатна спраўляецца і з гэтай задачай. Герой Макар мае вочы незвычайнага блакітнага колеру, ён доктар (а да гэтай прафесіі ў жанчын асаблівае стаўленне), былы марак, мае невялікі домік у Францыі, смелы, шчыры, рашучы. Такому нельга адмовіць, нават калі Гераіня замужам. Яна ж не пойдзе насуперак лёсу.

**Кампанент 5. Сяброўка Гераіні.** Неабавязковы, але пажаданы і вельмі выгадны для сюжэта кампанент. Яна можа выступаць і ў якасці выказвальніка таемных жаданняў Гераіні, і як яе персаналізаваны знешні локус кантролю. У зручны момант яе выгадна пертварыць з сябра ў ворага, прымусіць завесці раман з мужам Гераіні ці проста закахацца ў Героя. Варыянтаў процьма. Але менавіта Сяброўка павінна прысутнічаць разам з Гераіняй падчас усіх важных у яе жыцці падзей.

Кацярына Вільмонт абірае гуманны шлях і робіць сяброўку Насцю дарадцам і памочнікам Гераіні, з якой яны ў выніку разам вядуць бізнес. Лёс Насці выступае і індыкатарам шчасця Гераіні. У параўнанні з ёй Гераіня больш прывабная, шчаслівая і паспяховая.

**Кампанент 6. Злачынства.** Забойства, спроба забойства, фінансавыя махінацыі, гвалтаванне ці проста пагрозы вельмі выгадна працуюць у сюжэце. З аднаго боку, гэта ўдалы ход для сутыкнення патрэбных герояў, іх знаёмства і магчымасць праявіць сябе. З іншага — выдатны спосаб трымаць увагу чытача ў напружанні. Што ж будзе? І нават калі потым вынік злачынства па сюжэце «спусціць на тармазах», не прывёўшы да кульмінацыі ці развязкі злачыннай лініі, то яго роля будзе ўсё роўна важная: героі пазнаёміліся і ведаюць, як кожны трымае сябе ў экстрэмальнай сітуацыі.

Па сутнасці, Кацярына Вільмонт так і робіць: Героя спрабуюць забіць, а Гераіня яго выратоўвае. Лінія са злачынствам перарываецца (тыя, хто яго забіваў, проста і досыць лагічна знікаюць з сюжэта), але адносіны герояў — не.

**Кампанент 7. Вяселле.** Ім неабавязкова заканчваецца расповед (хоць гэта амаль стандартны варыянт), але можа і пачынацца, як у рамане «Шалый малый». Варта памятаць, што ў кнігах пра каханне вяселлю надаецца намнога большае значэнне, чым у звычайнай прозе. Важна памятаць адно: пасля яго ўсё абавязкова змяняецца. Гэта не проста пераезд у новы дом, новы лад жыцця, але і новы спосаб мыслення для герояў. У выпадку з раманам, што мы разглядаем, трывожныя сігналы і думкі «не будуць яны разам» між радкоў чытаюцца ледзь не з першай старонкі. Я наўмысна не распавядаю, гэта вяселле Героя і Гераіні, якія мусяць пераадолець усе сумненні і быць шчаслівымі, ці гаворка ідзе пра нейкіх іншых персанажаў. Усё ж варта паважаць пачуцці тых, хто кнігу яшчэ будзе чытаць.

**Кампанент 8. Прысутнасць «былога» ці «былой».** Нішто не выклікае такой цікавасці, як стасункі каханага з «былой». Простая жаночая цікаўнасць. Тым больш калі гэтая самая «былая» прыходзіць на вяселле, шукае сустрэчы з Гераіняй і кажа, што менавіта ёй наканавана быць разам з гэтым мужчынам. І не проста мірна размаўляе, але ладзіць істэрыкі, б'е шкло ў машыне, усяляк нагадвае пра сябе. Больш за тое, сама гісторыя іх кахання, вялікага і нібыта моцнага, знарок замоўчваецца аўтаркай. Канечне, да часу, аднак гэта неверагодна інтрыгуе чытачку.

Тут аўтар можа даваць волю фантазіі і прыдумваць проста фантастычныя варыянты развіцця падзей у мінулым. Чым вастрэй канфлікт, чым глыбей рана ад здрады, тым лепш. У гэтым выпадку ўсё павінна працаваць ад адваротнага: чытачка мусіць радавацца, што ў яе жыцці такога не было і не будзе, а калі было ці будзе (не дай бог!), то яна ніколі не стане паводзіць сябе менавіта такім чынам.

**Кампанент 9. *Happy End*.** Класіка жанру. Абавязковы элемент. Без яго раман будзе незавершаны, і чытачы маюць права чакаць працягу. Герой паводле правілаў застаецца разам з Гераіняй. У іх вяселле. Яны сядзяць разам на беразе возера. Плывуць на караблі. Капаюць бульбу. Ці проста сустрэліся выпадкова ў горадзе, і ўсім зразумела, што каханне непазбежнае... І нават калі здараецца так, што «яны не могуць быць разам», пісьменнік павінен зрабіць акцэнт на іншым станоўчым момансе.

Чытачка мусіць заплакаць ад шчасця і радасці за гераіню, выцерці слёзы, адкласці кнігу і пачаць гатаваць мужу вячэру. Ці апрануць самую прыгожую сукенку і выйсці на шпацыр. А раптам сустрэне свайго Героя? Зрэшты, можна проста жыць далей. Ці адгарнуць першую старонку новага рамана пра чыёсьці каханне. А сваё і так прыйдзе. Абавязкова!

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Лекі ці атрута?

Май распачаўся выдатна: у мілай Варшаве, за велізарным кубкам кавы з фісташкавым сіропам і з толькі што набытай кнігай на каленях. Кнігай Мачэка Рашкоўскага «Напісана сонцам». Два радкі анатацыі — і ўнутранае дзіця адразу ж затупала ножкамі, выкрыкваючы: «Хачу, хачу!»

Пачынаецца кніга з усім вядомай прыпавесці пра Аляксандра Македонскага і Дыягена, калі на пытанне палкаводца пра тое, што ён можа зрабіць для беднага мудраца, які жыве ў бочцы, вялікі філосаф без аніякага захаплення адказаў: «Адыдзі ўбок, ты засланяеш мне сонца!» Пасля гэтага аўтар выводзіць зусім неверагодную тэорыю пра тое, што мы заўсёды ўспрымалі Македонскага як нейкую знешнюю гістарычную фігуру. Але ці не жыве ўнутры кожнага з нас асабісты Македонскі, які засланяе нам сонца? Кожны мае права стаць самому сабе ці Аляксандрам, ці Дыягенам. Пытанне сілы волі і інтэлекту. А гэта ўжо паняцці вышэйшага парадку развіцця асобы. Успомнім знакамітую іерархію патрэбнасцей па Маслоу. Неабходна дайсці як мінімум да пятай ступені, каб кніга і веды сталі такімі ж неабходнымі атрыбутамі паўсядзённасці Удумлівага Чалавека, як вада і ежа.

Але, калі задумацца, ці настолькі адназначныя межы людскіх патрэбнасцей? Магчыма, разам з развіццём у чалавеку фарміруецца неабходнасць у чымсьці больш глыбокім? Да прыкладу, уласная бяспека знаходзіцца на адным з базавых узроўняў вышэйзгаданай піраміды. Але па меры эмацыянальнага і інтэлектуальнага ўзбагачэння з кожнай прачытанай кнігай у асобы павінен расці персанальны ўзровень адказнасці як за свае ўчынкі, так і за дзеянні грамадства, у якім ён жыве. Такім чынам, суб'ектыўная бяспека пераходзіць на ўзровень сацыяльнай. Хоць здараецца, што чалавек начытаны, які атрымаў выдатную адукацыю, ператварае кнігу ў інструмент жаху і маніпуляцыі.

З 1947 года ў Германіі штогод 10 мая адзначаюць Дзень кнігі. Дата выбрана не выпадкова. Гэты дзень афарбаваўся чарнільнай крывёй і быў прасякнуты слязьмі нямога страху. Па ўсёй краіне запалалі вогнішчы з кнігамі, што супярэчылі германскаму духу. Ідэолагам гэтай акцыі быў філолаг-германіст доктар Гебельс. Жорсткая іронія, ці не так? Генрых і Томас Маны, Стэфан Цвэйг, Эрых Марыя Рэмарк, Ліён Фейхтвангер, Бертальд Брэхт і сотні, сотні іншых аўтараў былі пагрозай для новай расы чыстакроўных арыйцаў. Можа таму, што гэтыя аўтары прымушалі думаць, адчуваць, спачуваць і сумнявацца? Аднойчы мы ўжо згадвалі сюжэт рамана Рэя Брэдберы «451 градус па Фарэнгейту». З яго старонак паўстае грамадства, што кіруецца выключна спажывецкімі прынцыпамі. Кніга прымусіла вас задумацца пра сэнс жыцця? Спаліць яе! Асоба, здатная на крытычнае асэнсаванне рэчаіснасці і ўвогуле назаўсёды па-за законам! «Кніга — гэта зараджаная стрэльба ў доме суседа. Спаліць яе! Разрадзіць стрэльбу! Трэба ўтаймаваць чалавечы розум. Адкуль нам ведаць, хто заўтра стане мішэнню для начытанага чалавека?» — кажа брандмайстар Біці.

Гістарычна сюжэт, канечне ж, не новы. Яшчэ Генрых Гейнэ ў трагедыі «Альмансор» пісаў: «Там, дзе спальваюць кнігі, у выніку спальваюць і людзей». Ужо не раз гісторыя скаланалася ад падобных злачынстваў. І таму варта памятаць, што любыя веды — як атрута. Могуць вылечыць, а могуць і забіць. Таму ўжываць гэтыя лекі варта выключна з любоўю ў сэрцы, каб захаваць і жыцці, і кнігі.

## Госці з «Маладосці»

# Патрапляем у гісторыю

Гісторыя — тое, чым апошнім часам апантана зацікавілася «Маладосць». У часопісе стартуе новы праект, дзе навучэнцы і выкладчыкі гістарычных факультэтаў ВНУ нашай краіны будуць прадстаўляць свае цікавыя напрацоўкі, знаходкі, разважанні. Пачынаючы з шостага нумара ў рубрыцы «ГістфакТ» будуць друкавацца каштоўныя ў навуковых адносінах і адначасова захапляльныя не менш за любы мастацкі твор успаміны Эдварда Тамаша Масальскага, сведкі драматычнай беларускай гісторыі першай паловы XIX стагоддзя, аднаго з сяброў таемных суполак філаматаў і філарэтаў. Тэкст гэты адшукаў і пераклаў на беларускую мову выкладчык Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта Сяргей Шыдлоўскі. Успаміны Масальскага — жывая гісторыя, эмацыянальная, часам адрозная ад традыцыйнай падручнікавай інтэрпрэтацыі падзей. Урыўкі прапануем увазе чытачоў «ЛіМа».

«У той час Вільня выглядала заможнай і гаманлівай; цэны на прадукты былі нечуванымі: бочка жыта каштавала трыццаць рублёў, кадушка масла — пятнаццаць рублёў. Панства з усіх далучаных да Расіі правінцый з'ехалася на зіму ў Вільню, дэманструючы раскошныя экіпажы і строі; адных крам з дыяментамі налічвалася дзевяць, самая славутая з іх належала Рэйнеру; на вуліцах і плошчах знаходзілася некалькі соцень наёмных карэт; у карчме Мілера штодня стаяў стол, накрыты на двухсот асоб; абед па дукаце, а прабіцца было цяжка. Калі пані Мілер выязджала на падвячорак да якой вілы за горад, яе суправаджала некалькі дзясяткаў карэт. У кожным доме стаяў стол, засыпаны золатам, бесперапынку ішла шалёная гульня ў фараона. Калі дукат падаў на падлогу, яго ніхто не падымаў, ён належаў ужо лёкаям; за калоды карт апошнім плацілі дукатамі, дык яны азалаціліся».

«Нашай забавай было расстаўляць на вялікім стале ў зале шэрагі цынкавых жаўнерыкаў у два войскі: французскае і рускае, каб даваць бакаталі. Французскае войска ўзначальваў Напалеон, большы за іншых цынкавы жаўнер са сцягам, а расійскае — нейкі карузлік з бубнам, якога называлі Бенігсенам. Мы з братам па чарзе выбіралі сабе войска і білі па ворагу кулямі з моркквы са стрэльбаў, зробленых з гусіных галёначных костак. Тое войска цярпела паразу, у якім больш жаўнераў было збіта кулямі праціўніка. Але здаралася, у запале стралец рускага войска дапамагаў праціўніку, а ў Напалеона ніхто не пацэліць не наважваўся».

«Ваколіцы Начы напярэдадні нашага ад'езду былі месцам вясёлым са шматлікім суседствам; людзі, хоць у большай частцы думалі па-новаму, жылі, аднак, паводле старасвецкіх звычаяў, сціпла, без раскошы, без мяккай мэблі: лавы, простыя сталы, крэслы хатняй работы, і кухня простая, хоць і шчодрая. Гэтай шчодрасцю Літва вылучаецца. Ведаю цяпер усе правінцыі даўняй Польшчы і магу засведчыць, што нідзе няма такой разнастайнасці страў, нідзе так смачна, хоць і проста, не частуюць. Гэта невычэрпнае мноства страў малочных, вяндліны, дзічыны, цудоўнай садавіны, скрозь рыба; толькі на Літве гаспадыні дбалі аб запасах».

«У вёсках нашых было выразана ўсё быдла да апошняга, усе авечкі, свінні, птаства, пазабіралі ўсіх коней і збожжа, змалочанае і ў снапах; варварскія жаўнеры вывелі па вёсках і ў лясах пчол, якіх да таго часу тамтэйшае сялянства трымала ў вялікай колькасці; забралі лепшае статовае і кухоннае начынне акрамя срэбра, якое было закапанае; у сялян — вопратку, палатно, кажухі; папалілі гаспадарскія збудаванні, гумны, аборы, пілуючы іх на дровы, хоць вакол быў лес. Словам, праз некалькі дзён гасцявання ў нашай ваколіцы вялікай расійскай арміі мы цалкам згалелі. Пашэнціла, што захавалася жытло ў дварах і сялянскія хаты, бо ў іх кватаравалі афіцэры; і што паводле тамтэйшага звычаю сяляне мелі нейкую колькасць збожжа, захаванага ў ямах, дзякуючы чаму дачакаліся новага ўраджаю, і ў лясах было дастаткова жыўнасці. Стрэльбаў, пораху і куль хапала; і нашы стральцы, і ваколічная шляхта, і прыгонныя назбіралі таго багата, пераховўваючы ў лясах. І даліся ў знакі расіянам, забіваючы іх без шкадавання, калі каго сустракалі паасобку або малымі партыямі на лясных сцяжынах, або пры крадзяжы мёду».

«Пасля зыходу галоўнай арміі праходзілі потым той жа дарогай праз Белічаны меншыя вайсковыя часткі, абыходзячы разбіты паштовы тракт з Оршы на Вільню. Сярод тых прыбышоў былі і французы, якія разбегліся з-пад Барысава ў лясы і хаваліся па засценках і ў лясных наглядчыкаў; выходзілі са сваіх сховішчаў у поўнай убогасці, перамёрзлыя і згаладалыя, такія слабыя, што гінулі ад найменшай прычыны. Памятаю, як адзін такі ў кагосьць з нашых суседзяў, калі ўваходзіў у дзверы, сутыкнуўся з казакам і зваліўся мёртвы. Другі такі прыцёгся ўжо да нас, калі два браты Нарышкіны, гвардзейскія афіцэры, заехаўшы да нас, снедалі. Угледзелі яны таго бедняка і вырашылі пажартаваць з маёй маці і панны Анэлі. Зрабілі выгляд, што хочуць яго зарубіць, а на плач і просьбы маёй маці абяцалі пакінуць яму жыццё, калі мая маці ці панна Анэля іх пацалуе. Мусілі гаротніцы на тое пайсці, і цешыліся, што захавалі жыццё француза, узялі яго пад апеку; але, наколькі памятаю, здаецца, той бядак у той жа дзень ці назаўтра памёр».

«Мая стараннасць у навуках і добрыя паводзіны выклікалі такую прыхільнасць з боку старэйшых калег, што яны ўганаравалі мяне запрашэннем у Таварыства філарэтаў. Прымалі туды не ўсіх, хто вучыўся ва ўніверсітэце і хацеў таго сам, а толькі выбраных. Таварыства тое было нібыта таемным, хаця і кіраўніцтва, і ўсе добра пра іх ведалі. Таямніца была толькі ў тым, што пасяджэнні не былі публічнымі, а толькі для сяброў таварыства. Мэтай арганізацыі з'яўлялася грамадскае выхаванне моладзі на карысць краю; гэта быў сродак паляпшэння нораваў і адносінаў да адукацыі».

«Адным з галоўных пунктаў расследавання быў статут філарэтаў, пра які ўсіх апытвалі. Статут напісаў Т. Зан, пасля скасавання таварыства яго знішчылі. Большасць філарэтаў яго не чыталі; старэйшыя, перадусім філаматы, якія, як заснавальнікі таварыства філарэтаў, той статут разам з Т. Занам распрацавалі, памяталі тэкст і ўсё больш-менш дакладна на запыт Камісіі яго запісалі. Аднак Камісія, уважаючы тое за змову, дамагалася арыгінала, напісанага рукой Т. Зана, пра які ведала з допыту. Не давалі веры, што той арыгінал знішчылі; прыйшлі да пераканання, што ў тым статуце меліся антыўрадавыя палажэнні, таму насядалі на Т. Зана, каб назваў месцазнаходжанне арыгінала, пагражалі жорсткім пакараннем…»

На працягу ўсяго лета ўспаміны Эдварда Масальскага будуць друкавацца ў «Маладосці». Паглыбляйцеся ў гісторыю, каб лепей разумець сучаснасць.

**Падрыхтавала**
**Тамара САРАЧЫНСКАЯ**

## На паліцы

# Зберагчы спадчыну

Выйшла ў свет брашура «Фальклор Прыпяцкага запаведніка». Супрацоўнікі Гомельскага абласнога цэнтра народнай творчасці сумесна з аддзелам культуры Жыткавіцкага райвыканкама і цэнтрам фальклору даследавалі вёскі Азяраны, Перароў, Перароўскі Млынок, Хваенск, Хлупін Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці з мэтай выпрацоўкі найбольш верагоднай версіі бытавання каляндарна-земляробчых і сямейна-бытавых свят і абрадаў, фальклорных твораў.

Калісьці ў гэтых населеных пунктах, паводле мясцовых старажылаў, «святы праходзілі амаль праз кожную вёску», бо іх жыхары ладзілі святы, праводзілі абрады на Каляды, Юр'е, Троіцу, Купалле, «рабілі талакой» у Хлупіне, ездзілі на чоўнах, адзначалі сціплыя вяселлі, «білі бабіну кашу», спявалі, танчылі, верылі ў русалак, вядзьмарак, дамавікоў. Калі доўга не было дажджу, выклікалі яго. Ведалі пра паходжанне назваў сваіх вёсак.

Усё гэта сведчыць, што людзі захавалі ў памяці колішнія традыцыі і звычаі, легенды і паданні. У гэтым пераканала фальклорная экспедыцыя па вёсках Прыпяцкага запаведніка тэрыторыі Жыткавіцкага раёна, дзе калісьці быў сапраўдны «фальклорна-этнаграфічны рай».

Каштоўнасць брашуры з'яўляецца даследаванне менавіта лакальна-рэгіянальных асаблівасцей найбольш значных з'яў каляндарна-абрадавай і фальклорнай традыцый. Паколькі да звестак пра абрадавыя з'явы дадаюцца песенныя тэксты, увесь гэты комплекс можа стварыць больш-менш аб'ектыўнае ўяўленне пра беларускую традыцыю.

Жыццяздольнасць традыцыйнай культуры, абуджэнне цікавасці да яе ў многім залежыць ад узроўню папулярызатарскай работы. Брашура з'яўляецца менавіта такой навукова-папулярнай літаратурай для метадыстаў па фальклоры і этнаграфіі ўстаноў культуры.

Фальклорныя матэрыялы вёсак Азяраны, Перароў, Перароўскі Млынок, Хваенск, Хлупін можна выкарыстоўваць падчас правядзення вучоба кадраў: курсаў павышэння кваліфікацыі, семінараў, семінараў-практыкумаў, творчых лабараторый клубных работнікаў і накіраваць іх на далейшае вывучэнне бытавання лакальнай традыцыі, забяспечыць профільную сістэму трэнінгу культработнікаў, якія маюць дачыненне да народнай культуры.




Дзякуючы гэтаму выданню і мультымедыйнаму дадатку да яго — дыску з аўдыязапісамі песень і фотаздымкамі вёсак і носьбітаў, а ў перспектыве і іншым выданням і дадаткам да іх з серыі «Фальклор Прыпяцкага запаведніка», культработнікі змогуць адрадзіць фальклорныя традыцыі некаторых вёсак Жыткавіцкага, Петрыкаўскага і Лельчыцкага раёнаў Гомельскай вобласці, захоўваючы скарбы айчыннай культуры.

**Людміла МЕЛЬНІКАВА**



# Уладзімір Громаў: «Даводзіцца цярпець самога сябе»

На сцэне ён выконвае ролю Яўгенія Анегіна, а ў жыцці паўтарае яго: капялюш, нядбайна павязаны шалік, яскравая ўсмешка. «Лонданскі дэндзі» з мінулага стагоддзя. Уладзімір Громаў — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, саліст Вялікага тэатра оперы і балета. У яго ёсць усё: талент, фактура, харызма, прывабная знешнасць, пачуццё гумару. Пра такіх людзей кажуць: «пацалаваны богам». Калегі адзначаюць: "У Громава неверагодная працаздольнасць! Падчас рэпетыцый ён выкладваецца, як на сцэне. Яму заўсёды можна даверыцца». «Уладзіміру вельмі пашанцавала і са знешнасцю, і з вакалам. Шкада толькі, што ён барытон, а не тэнар, бо на сцэне заўсёды пераўвасабляецца ў адмоўных герояў ці персанажаў са складаным характарам. Але ў жыцці ён не такі!» — падзяліўся народны артыст Беларусі Сяргей Франкоўскі. На самой справе Уладзімір Громаў вельмі самакрытычны і сціплы. Не ўяўляе жыцця без салодкага, называе гэта сваёй маленькай слабасцю. У вольныя ад працы хвіліны бавіць час з сябрамі ці катаецца на веласіпедзе. Аддае перавагу творчасці Булгакава і Рэмарка, атаясамлівае сябе з героямі апошняга.



**— Кім вы хацелі стаць у дзяцінстве?**

— Дакладна памятаю, што касманаўтам быць не хацеў *(усміхаецца)*. Як кажуць, дзеці бяруць прыклад з бацькоў, а мае бацькі — музыканты. Я з дзяцінства ўяўляў сабе, што буду іграць на гітары. Але ў падлеткавым узросце жаданне трансфармавалася: доўгія валасы, куртка са скуры, гітара, рок-музыка. Гэтыя інтарэсы сышлі на другі план, калі я стаў сур'ёзна займацца вакалам, свядома абраў класічны матэрыял.

**— Ці была ў вас мянушка?**

— Вядома, як і ва ўсіх дзяцей! Спачатку мяне называлі Грамафон, потым — Патэфон. А ў войску клікалі Прохар, як героя рамана В. Шышкова «Угрум-рака», у якога было прозвішча Громаў.

**— Бацькі-музыканты паўплывалі на рашэнне стаць артыстам?**

— Не, яны проста любілі сваю прафесію. Мабыць, гэта пачуццё перадалося і мне. Сёння ад многіх калег можна пачуць: я сваё дзіця ў музыку не аддам! Мне так дзіўна становіцца: як жа трэба не любіць тое, чым займаешся, каб не жадаць гэтага ж свайму дзіцяці?!

**— Распавядзіце пра першыя крокі вашай кар'еры.**

— Яскравай падзеяй быў справаздачны канцэрт музычнага вучылішча, дзе я спяваў арыю Фігара з оперы «Вяселле Фігара» В. Моцарта. Урэзаліся ў памяць зала і хваляванне, якому вельмі цяжка было даць рады. Прызнаюся шчыра, гады ідуць, а яно не знікае.

**— Прыгадайце сваё першае выступленне.**

— Выразна яго памятаю! Май, святочны канцэрт у парку, мне сем гадоў. Мы выступалі дуэтам з татам: ігралі на гітарах. Гэта быў і мой першы прафесійны заробак.

**— А якой была ваша першая роля?**

— Шарплес з оперы «Мадам Батэрфляй», сыграны ў опернай студыі кансерваторыі. Цікава, што на сцэне Вялікага тэатра мне прапанавалі праспяваць гэтую ролю толькі ў мінулым сезоне. Калі казаць пра дэбютны выхад на сцэну Вялікага — Фіярэла з оперы «Севільскі цырульнік», герой, які ў мінулай пастаноўцы з'яўляўся толькі ў самым пачатку першага дзеяння. А ўжо праз месяц я спяваў Маралеса ў спектаклі «Кармэн». Шокам для мяне



стала неабходнасць вывучыць партыю на французскай мове — опера прайшла як у тумане *(усміхаецца)*.

**— Сёння вы спяваеце амаль ва ўсіх вядучых спектаклях, але, магчыма, засталася роля, якую пакуль яшчэ не даводзілася сыграць?**

— На дадзены момант у маёй галаве засеў персанаж Макбет. Калісьці ў тэатры пачыналася праца над аднайменнай операй Вердзі. Лічу гэта вяршыняй, да якой мне трэба імкнуцца!

**— Што для вас сцэна?**

— Кажуць, сцэна — хвароба ці наркотык. Унутры мяне засела гэта «зараза» *(усміхаецца)*. Апладысменты, якіх увесь час чакаеш, даюць стымул да развучвання новых партый.

**— Аднойчы вы прызналіся, што ў свой адзіны выхадны вас цягне ў тэатр. Чым можаце гэта аргументаваць?**

— Тэатр — мой другі дом! Але я не адразу прыйшоў да гэтай высновы. Калі толькі пачаў працаваць, не разумеў, чаму людзі, якія не занятыя ў спектаклі, праводзяць тут вялікую колькасць часу. Ішлі гады, і я адчуў, што тэатр унутры мяне пачаў адваёўваць прыватную прастору. Ён нават сніцца.

**— Хто ваш галоўны крытык?**

— Мой галоўны крытык сядзіць унутры. Я на 99 працэнтаў незадаволены сабой. Не магу на сябе глядзець з боку, не магу слухаць. Увесь час хочацца нешта змяніць. Ёсць усяго некалькі запісаў, да якіх у мяне няма прэтэнзій: «Арыя містара Ікс» і «Раманс Рошчына».

**— Ці верыце вы ў прыкметы?**

— Безумоўна, у мяне іх шмат! Вось, напрыклад, калі ноты ўпалі, трэба абавязкова на іх сесці. І менавіта на тое месца, куды яны ўпалі *(смяецца)*. А яшчэ — калі на апошняй рэпетыцыі перад выступленнем або спектаклем усё праходзіць удала, чакай бяды!

**— Згодныя з выразам, што «поспех не даруюць?»**

— Як паказвае практыка, не даруе поспех той чалавек, які ў сілу пэўных абставін не на сваім месцы. Калі чалавек займаецца тым, што яму падабаецца, ён самадастатковы — не ўзнікне пачуцця зайздрасці.

**— За што вы любіце сваю працу?**

— Яна дазваляе быць не толькі самім сабой, але і іншым чалавекам. На сцэне ты пражываеш жыццё героя, спрабуеш яго зразумець. Праца дае магчымасць эксперыментаваць.

**— Якімі дасягненнямі ганарыцеся?**

— Я не завастраю ўвагі на ўласных дасягненнях. За столькі гадоў мозг навучыўся не зважаць на асабістыя поспехі. Наша прафесія не дазваляе «спачываць на лаўрах». Заняць месца на п'едэстале і стаяць — не атрымаецца. Мы заўсёды павінны на яго ўзбірацца, выходзячы на сцэну, і даказваць публіцы, што вартыя яе любові!

**— Вас ведаюць як у Беларусі, так і за яе межамі. Ніколі не ўзнікала жадання пераехаць за мяжу?**

— Для гэтага трэба валодаць большай ступенню авантурызму і неразважлівасці. Прапаноўвалі пераехаць у Расію, але я адмовіўся. Вырашыў, што мне лепш тут.

**— Як у вас атрымліваецца сумяшчаць канцэртную дзейнасць і працу ў тэатры?**

— З цяжкасцю! Бывае, што прапануюць канцэрт, на які я згаджаюся, але раптам у тэатры прызначаюцца рэпетыцыі — адчуваеш сябе «слугой двух гаспадароў».

**— Вы сыгралі некалькі роляў у кіно. Гэта больш складана, чым на сцэне тэатра?**

— Сыграў — гучна сказана. Хутчэй, браў удзел у здымках фільмаў *(смяецца)*. У кіно ёсць агульны план і буйны, а ў тэатры ты заўсёды толькі ў буйным плане. Нават калі стаіш у «дзявятым шэрагу». Бо абавязкова знойдзецца глядач, які ў дадзены момант назірае за табой. У кіно мы бачым тое, што нам паказваюць, а ў тэатры — што хочам убачыць. Хаця фальш, на маю думку, больш заўважная на экране, чым на сцэне тэатра.

**— На што вам часцей за ўсё не хапае часу?**

— Часу не хапае на сябе і на пераацэнку каштоўнасцей *(усміхаецца)*. Ведаеце, такое адчуванне, што многае ў жыцці мы пакідаем «на потым», а гэтае «потым» ніяк не надыходзіць. Мы жывём чужым жыццём: камусьці нешта вінныя, камусьці нешта паабяцалі, спяшаемся некуды... А жыць калі?

**— Што для вас шчасце?**

— Шчасце — паняцце з «мінулага». У паўсядзённасці, перажываючы нейкія падзеі, мы часта не адчуваем яго. Звяртаем увагу толькі праз нейкі час. Шчасце — вокамгненныя ўспышкі эмоцый!

**— Што для вас — цярпець?**

— Цярпець даводзіцца самога сябе! І тое, што ты сабе прыдумаў, чым займаешся. А потым узнікаюць пэўныя нязручнасці, але тваё імя ўжо на афішы — і вось тут трэба прымусіць сябе вывучыць матэрыял, знайсці нешта станоўчае.

**— Ад чаго вы адчуваеце стомленасць?**

— Тэатр — механізм, дзе вельмі шмат залежыць і аднячасова не залежыць ад цябе. Часам усё ідзе не так, як павінна — ад гэтага я стамляюся.

**— Не шкадуеце, што звязалі жыццё з мастацтвам?**

— Калі б зараз мне прапанавалі штосьці памяняць, я б не пагадзіўся.

**Іна КОРСАК,**
**фота Дар'і Буракінай**

*Слова краязнаўцы*



**Ларыса КУРЧАНКА, настаўніца гісторыі і грамадазнаўства, дырэктар літаратурна-краязнаўчага музея Нёманскай сярэдняй школы Уздзенскага раёна, распавядае пра даследчыцкую працу навучэнцаў і іх педагогаў:**

— Музей заснаваны ў 1989 годзе. Намаганнямі настаўнікаў Ніны Ус, Іосіфа Жагалковіча, Ядзвігі Дземідовіч і пры падтрымцы навучэнцаў і педагогаў нашай школы, а таксама жыхароў вёскі Магільна ды бліжэйшых населеных пунктаў, быў сабраны багаты матэрыял — каля 250 экспанатаў. І музейны фонд няспынна папаўняецца.

Першы раздзел экспазіцыі прысвечаны гісторыі Магільна. Пра побыт нашых продкаў распавядаюць гліняныя чарапкі, знойдзеныя пры раскопках Магільнянскага замчышча, скроблы з крэменю, каменная сякера ды іншыя прыстасаванні, якія дапамагалі ў старадаўнія часы весці гаспадарку. Упершыню паселішча Магільна згадваецца ў 1235 годзе. Тут у XIII — XIV стагоддзях стаяў замак, які вытрымаў не адно нашэсце шведаў і татар. Да гэтай пары захаваліся курганы — сведкі даўніх падзей. Па рацэ Нёман ішоў адзін з самых кароткіх і зручных гандлёвых шляхоў да Балтыйскага мора. У свой час на гэтых землях гаспадарылі князі Кобрынскія, затым Пацы і Радзівілы.

У другім раздзеле «Традыцыйныя рамёствы» прадстаўлены ўзоры ткацтва: ільняныя ручнікі і сурвэткі, абрусы і посцілкі. Можна тут пазнаёміцца і з прыстасаваннямі для апрацоўкі лёну (пранік, прасніца, грабяні, верацёны, матавіла і чоўнікі) ды прыладамі працы селяніна (каса, серп, сякера). Не можа не зацікавіць драўляны посуд, які выкарыстоўвалі вяскоўцы: бочкі, чашы, міскі, лыжкі, маслабойкі, берасцяныя кашы. Наведвачы музей, вучні даведваюцца, як і для чаго выкарыстоўваўся той ці іншы прадмет.

Наступны раздзел «Рэха мінулай вайны» прысвечаны падзеям Вялікай Айчыннай вайны і ўдзелу нашых землякоў у разгроме нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Тут сабраны дакументы, успаміны ветэранаў, фотаздымкі, асабістыя рэчы салдат і партызан. Пастаянна папаўняюцца звесткі пра мужных герояў, якія змагаліся з ворагам.

З 1973 года Нёманская СШ носіць імя Ільы Гурскага, нашага земляка, пісьменніка, грамадскага і палітычнага дзеяча. Раздзел, прысвечаны яго жыццю і дзейнасці, займае цэнтральнае месца ў музеі.

Маецца і раздзел, прысвечаны адукацыі, дзе прадстаўлены фотаздымкі, альбомы, лісты ад выпускнікоў, віншавальныя паштоўкі, граматы, якімі былі ўзнагароджаны вучні гэтай школы. Заўсёды вялікую цікавасць выклікае стэнд «Знакамітыя людзі — нашы землякі». Сярод іх вучоныя, ваенныя дзеячы, заслужаныя настаўнікі, пісьменнікі.

Апошні раздзел прысвечаны дзейнасці калгаса — ад яго станаўлення і па сёння. У 1929 годзе на тэрыторыі цяперашняга Нёманскага сельскага савета было арганізавана восем калектыўных гаспадарак, якія аб'ядналіся ў калгас «Нёман» толькі ў 1959-м. Узначаліў гаспадарку і доўгі час кіраваў ёю Мікалай Пармон. Пачэснае месца ў экспазіцыі займаюць фотаздымкі лепшых працаўнікоў.

За гады існавання ў музеі пабывала шмат наведвальнікаў. Цікава і запамінальна ладзяць вандроўкі ў мінулае юныя экскурсаводы, пра што сведчаць удзячныя запісы ў кнізе для гасцей. Пры музеі створаны гурток «Спадчына», які наведваюць і старшакласнікі, і вучні малодшых класаў.

*Музейны ўнікат*

# Мастацкія брэнды

Веткаўшчына і Чачэршчына — унікальныя раёны нашай краіны, дзе цесна спляліся гісторыя і сучаснасць. На жаль, гэты непаўторны і цікавы куток Беларусі пацярпеў ад чарнобыльскай навалы. Таму збіральніцкая і даследчыцкая дзейнасць музеяў скіравана на ўратаванне памятак даўніны, папулярызацыю забытых і невядомых старонак мінуўшчыны.



*Маці Божая «Суцішы хваробы». XIX ст.*

Выстаўка «Бог сялянскі хрысціянскі. Бабіцкая ікона» — сумесны праект Веткаўскага музея стараабрадніцтва і беларускіх традыцый імя Ф. Р. Шклярава ды Чачэрскага гісторыка-этнаграфічнага музея — быў прадстаўлены летась у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

Мэтай супрацоўніцтва сталі вывучэнне і дэманстрацыя шырокаму колу аматараў мастацтва ўнікальнай з'явы нацыянальнай культуры — бабіцкага народнага іканапісу. Менавіта ў вёсцы Бабічы Чачэрскага раёна жылі і тварылі ў канцы XX ст. апошнія майстры вядомай сялянскай дынастыі іканапісцаў Уладзімір і Гаўрыіл Геракова. Яны пісалі абразы для мясцовых храмаў і тутэйшых жыхароў. У экспазіцыі было прадстаўлена 38 твораў на самыя розныя сюжэты: «Каранаванне Багародзіцы», «Цуд Георгія пра змія» ды інш. Гэтым абразам маліліся 15 пакаленняў жыхароў Пасожжа — унікальнага этнакультурнага рэгіёна на стыку цяперашніх Беларусі, Расіі і Украіны.

— Мы паспрабавалі адкрыць гэтую самабытную з'яву ў нашай беларускай школе і вывучыць яе ва ўсіх адносінах на прыкладзе канкрэтнага экспедыцыйнага матэрыялу. У выніку ўпэўніліся: сялянскі творца не маляваў свайго суседа Зосіму або Саўку, ён пісаў іх святых заступнікаў, — адзначыла дырэктар Веткаўскага музея Галіна Нячаева.

Звычайна навукоўцы адносяць народны іканапіс да прымітыву, але толькі не ў дадзеным выпадку. Майстры бабіцкай школы працавалі з экспрэсіўнай смеласцю, аднак аблічча святых у іх надзвычай спакойныя, засяроджаныя, лагодныя. Тонкая прамалёўка твараў — вось дзе сапраўднае ўмельства! І зразумела, чаму: хрысціянства акцэнтуе надзвычайную вартасць асобы, якую прадстаўляе менавіта твар (аблічча). Таму аблічча Багародзіцы максімальна натуральнае і надзвычай партрэтнае.

У экспазіцыйных прынцыпах веткаўскага музея прасочваецца арганічнае спалучэнне мастацтва і тэкстаў народнай традыцыі. Таму разам з іконай святога Георгія можна прачытаць былічку пра «Юр'я і ліхога смока», а побач з Міхаілам — замову «ад гадзюкі», дзе архангел «папаляя агнём» «тры зьмяіцы-царыцы».

У гэтых абразах зніταваныя заходні ўплыў і глыбінная архаіка земляробчага ладу. Важную ролю выканалі ва ўзаемным узбагачэнні культур народныя майстры — іканапісцы. Унікальная рэгіянальная з'ява Гомельшчыны XIX — XX стст. — «Бабіцкая народная ікона» — стала ўжо здабыткам беларускай гісторыі мастацтваў, своеасаблівым мастацкім «брэндам» гэтага рэгіёна.

Напрыканцы 2013 г. у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» выйшла кніга-альбом «Кніжная культура. Ветка», што стала прыкметнай падзеяй у культурным жыцці нашай краіны. Гэта першае выданне, прысвечанае пераважна позняй рукапіснай кнізе XVIII — пачатку XX стст.

На Нацыянальным конкурсе «Мастацтва кнігі — 2014» выданне было ўзнагароджана Дыпломам пераможца ў намінацыі «Духоўнасць», а яе аўтары Святлана Лявонцьева і Галіна Нячаева — спецыяльнымі дыпломамі «За збіральніцкую і даследчыцкую дзейнасць у справе захавання страдрукаваных і рукапісных кніх і адраджэнне страчаных каштоўнасцей».

З'яўленне гэтай багата ілюстраванай, выкананай на высокім паліграфічным, дызайнерскім узроўнях кнігі стала магчымым дзякуючы таму, што кніжная культура



*Спас Нерукатворны. XIX ст.*

Веткаўска-Старадубскага рэгіёна з'яўляецца аб'ектам працяглых даследаванняў супрацоўнікаў Веткаўскага музея.

— У гэтым альбоме прадстаўлены рэчы стараабраднікаў, якія даследаваў яшчэ Фёдар Шкляраў, заснавальнік музея. Гэта адна з самых каштоўных музейных калекцый Беларусі і, магчыма, усёй стараабрадніцкай культуры Беларусі і Расіі, — распавёў вядучы навуковы рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Юрый Бажэнаў.

У выданне ўвайшлі помнікі друкаванай і рукапіснай спадчыны XVI — пачатку XX ст. з фондаў Веткаўскага музея, са збору Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, музея Гомельскага палацава-паркавага ансамбля, Навазыбкаўскага краязнаўчага музея (Расія). Усе кнігі збіраліся супрацоўнікамі музеяў, бібліятэк на працягу многіх гадоў у жывым народным асяроддзі, дзе дзесяткі пакаленняў бераглі іх не адну сотню гадоў, перадавалі з рук у рукі як найкаштоўнейшае багацце.

Ветка не толькі захоўвала старажытныя рукапісы, але амаль да сярэдзіны XX ст. працягвала рукапісныя традыцыі. На веткаўскай зямлі ствараліся летапісы, складваліся палемічныя тэксты, пасланні, духоўныя вершы, азбукі, тэхналагічныя рукапісы. Большая частка выдання прысвечана пеўчым рукапісам, якія захавалі старажытны спосаб запісу музыкі — «крукавую натацыю»: іх мастацкае афармленне дазваляе меркаваць пра высокі ўзровень майстэрства мясцовых кніжнікаў.

На Веткаўшчыне на працягу XVIII ст. сфарміраваўся свой дэкаратыўны стыль афармлення рукапісных кніг, які праіснаваў да 30-х гадоў XX ст. Сотні выдатных ілюстрацый, упершыню апублікаваных у выданні, дазваляюць нам не толькі любавацца сапраўднымі каштоўнасцямі, але і вучыцца ў нашых продкаў мастацтву стварэння кнігі.

**Кацярына БАРАНОЎСКАЯ**

# Па гасцінцах на веласіпедзе

Праект «Развіццё турыстычных кластараў у Беларусі» ўжо год рэалізуецца ў нашай краіне Беларускім грамадскім аб'яднаннем «Адпачынак у вёсцы» ў партнёрстве з Грайфсвальдскім універсітэтам (Германія).

— Турыстычныя кластары — модная тэма для сучаснай Беларусі, — распавяла старшыня БГА «Адпачынак у вёсцы» Валерыя Кліцунова. — З гэтымі інавацыйнымі падыходамі добра знаёмы ў 20 рэгіёнах. Пілотнымі тэрыторыямі абраны Валожынскі і Браслаўскі раёны, а таксама Відамлянскі сельскі Савет Камянецкага раёна. Яны адрозніваюцца па памеры, узроўні развіцця кластарных працэсаў і турыстычна-рэкрэацыйных рэсурсах. Валожынскі раён — найбольш «прасунуты» ў адносінах да каапераціі. Тут ужо ёсць аснова для кластара — зялёны маршрут «Валожынскія гасцінцы» і грамадскі савет па развіцці агратурызму.

Браслаўскі раён мае вызначаныя задаткі каапераціі, там таксама ёсць грамадскі савет па агратэкатурызме і ініцыятыва стварэння тэматычнага рамесніцкага кластара і зялёнага маршруту «Таямніцы Паазер'я» — Браслаў, Міёры, Дзісна. Відамлянскі сельсавет — самая маленькая тэрыторыя ў нашай краіне, дзе ствараюць турыстычны кластар. Нягледзячы на гэта, тут ёсць Інфармацыйны цэнтр па развіцці аграэкатурызму і ўстойлівым развіцці.

Падчас рэалізацыі праекта «Развіццё турыстычных кластараў у Беларусі» яго ўдзельнікі азнаёміліся з досведам стварэння Карпацкага турыстычнага кластара ў Румыніі, пабывалі на стажыроўцы ў Германіі (зямля Мекленбург — Верхняя Памеранія), узялі ўдзел у трэнінгах па фарміраванні зялёных маршрутаў, стварэнні «квестаў» (займальнае арыентаванне на мясцовасці), досведам інтэрпрэтацыі нашай прыроднай і культурнай спадчыны і інш.

У межах праекта ўбачылі свет выданні «Метадалогія стварэння рэгіянальных турыстычных кластараў у Беларусі», «Стандарты якасці: класіфікацыя сельскіх сядзіб», «Веламаршрут па "Валожынскім гасцінцы"», «Атлас турыстычных кластараў: зямля, людзі, увасобленыя ідэі» ды рэкламныя буклеты.

Як вынік у трох пілотных рэгіёнах узніклі ініцыятыўныя групы і цікавыя турыстычныя прадукты. Адзін з іх, найболей прапрацаваны, і быў прадстаўлены нядаўна. Гэта веламаршрут па валожынскіх гасцінцах.

— Ідэя яго стварэння лунала даўно, — заначыла Валерыя Кліцунова. — Першы невялікі кальцавы маршрут працягласцю 20 кіламетраў з'явіўся яшчэ ў 2010 годзе вакол сядзібы «Марцінава Гусь». Праз тры гады ўладальнікі некалькіх аграсядзіб і прадстаўнікі БГА «Адпачынак у вёсцы» пры падтрымцы Мінскага веласіпеднага таварыства і Валожынскага райвыканкама вырашылі пракласці веламаршрут ад станцыі Багданаў праз увесь Валожынскі раён да станцыі Радашковічы. Гэтая ініцыятыва пачала ажыццяўляцца дзякуючы праекту «Развіццё турыстычных кластараў у Беларусі».

Працягласць маршруту — каля 150 кіламетраў. Арганізатары вандроўкі паспрабавалі ўключыць у яго самыя цікавыя месцы Валожынскага краю: экамузеі, аграсядзібы, прыродныя і гістарычныя славутасці. Валанцёры-веласіпедысты размецілі трасу. Былі ўсталяваны альтанкі для адпачынку і інфармацыйныя стэнды. Вялікую дапамогу ў гэтым працэсе аказаў рэспубліканскі ландшафтны заказнік «Налібоцкі». Быў выпушчаны даведнік, які цікава распавядае пра гэты веласіпедны маршрут. З мая гэтага года веламаршрут даступны ўсім аматарам карыснага адпачынку.

**Раіса МАРЧУК**

# Доказ сяброўства

**У Пухавіцкім раённым краязнаўчым музеі захоўваецца частка хатняй бібліятэкі Алеся Бачылы (1918 — 1983). Перадача кніг спадчыннікамі паэта адбылася ў 2004 годзе.**

Каля 1000 выданняў паступіла тады ў Зазерскую сельскую бібліятэку імя А. М. Бачылы (Пухавіцкі раён). А больш як 400 асобнікаў прыняў на захоўванне раённы музей. З іх 220 кніг — з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў. Усе надпісы адрасаваны Алесю Бачылу.

Аснову калекцыі з аўтографамі складаюць выданні паэтычных зборнікаў. Гэта, безумоўна, сведчыць пра стасункі Алеся Бачылы ў першую чаргу з калегамі па паэтычным цэху. Калі ў пісьменніка пачала збірацца гэтая частка бібліятэкі? Відавочна, напрыканцы 1940 — на пачатку 1950-х гг. На кнізе вершаў Аляксея Зарыцкага «Арліная крыніца» чытаем: «Дарагому Алесю Бачылу — добраму таварышу і паэту…» Подпіс датаваны 25 лютага 1948 г. Аляксей Зарыцкі, Васіль Вітка, Аркадзь Русецкі, Анатоль Вялюгін, Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў — кола паэтаў, творчасцю якіх Алесь Мікалаевіч цікавіўся найперш. Як мне падаецца, паходжанне большасці набыткаў — гэта кнігі-падарункі. Цікавым здаецца наступны надпіс Анатоля Вялюгіна на кнізе «Насцеж»: «Дарагому Алесю — вершы за год…» Адзін паэт тым самым трымаў справаздачу перад другім, даводзіў калегу, што ўдалося зрабіць за пэўны адрэзак часу.

Істотна ў бібліятэцы аўтографаў прадстаўлена творчасць народнага паэта Беларусі Максіма Танка. «Танкаўскую» палічку адкрывае шасцітомны збор твораў. Дарэчы, надпісы — на кожным з тамоў. Выдавецкі рэдактар кожнага — Алесь Бачыла. Гэта і падкрэслена ў надпісе на першым томе, выдадзеным «Мастацкай літаратурай» у 1978 г.: «Майму дарагому другу і рэдактару Алесю Мікалаевічу Бачылу — з любоўю і ўдзячнасцю. Максім Танк. Мінск, 3 / II.1980 г.» І наступныя тры тамы падпісаны таксама 3 лютага 1980 г. Чытаем: «Дарагому Алесю Мікалаевічу Бачылу на добры ўспамін аб незабыўных гадах сумленнай работы ў часопісе «Полымя». Ад усяго сэрца…»; «Алесю Бачылу — з любоўю і найлепшымі пажаданнямі…»; «Майму цудоўнаму другу Алесю на добры ўспамін аб нашых незабыўных сустрэчах на бясконцых шляхах паэзіі…»

У чацвёртым томе — творы, напісаныя М. Танкам у 1964 — 1976 гг. Адкрываецца кніга вершам «Перапіска з зямлёй» (1964): «Я пісаў зямлі многа лістоў / Пяром, якім пішуць лірычныя песні; / Гімны розныя, / маніфесты; / пісаў я смыкамі ўсіх скрыпак, / Якія смяюцца і плачуць; / Пісаў спіцамі дрогкіх калёс, / Якарамі і мачтамі караблёў, / Штыком і / сапёрнай лапатай; / Пісаў кубкамі, з якіх п'юць / За здароўе і вечную памяць, — / Але пакуль што / Адказ атрымаў я / Толькі на ліст мой, / Напісаны плугам. / Вось ён. / Парэжце на скібы яго. /Частуйцеся. / Ешце».

Розныя творчыя манеры, увага да розных паэтычных, мастацкіх школ, зусім адрозны першапачатковы досвед, розныя паэтычныя зацікаўленні — здаецца, усё гэта калі і не адштурхоўвала творцаў адзін ад аднаго, то, прынамсі, і не збліжала. Але цеплыня надпісаў, мноства дробненькіх пазнак-«крыжыкаў» у змесце кніг — сведчанне і павагі, і ўвагі, і шчырай цікаўнасці.

Пяты том, куды ўвайшлі вершы, паэмы, пераклады 1976 — 1978 гг., Максім Танк падпісвае сябру 25 снежня 1980 года: «Майму цудоўнаму другу і ўдумліваму рэдактару Алесю Бачылу — з наваготнім прывітаннем і найлепшымі пажаданнямі…» На шостым томе — наступны надпіс: «Дарагому Алесю, які спакусіў мяне калісьці надрукаваць гэту прозу ў часопісе "Полымя". Ад усяго сэрца…» У шостым том акрамя літаратурна-крытычных артыкулаў увайшлі «Лісткі календара» — дзённік М. Танка з часоў яго заходнебеларускага жыцця. Алесь Бачыла і Максім Танк разам працавалі ў рэдакцыі «Полымя». У 1982 г. у вераснёўскім нумары «Маладосці» Алесь Бачыла надрукуе артыкул пра Максіма Танка — «Жыццё ў паэзіі». «Сябе як галоўнага рэдактара ён ніколі нічым не вылучаў, — расказвае Алесь Бачыла пра народнага паэта. — Вельмі ўважліва выслухоўваў і прыслухоўваўся да думак таварышаў, даваў кожнаму магчымасць выказацца да канца. Ды і паводзіў сябе проста, хоць ужо к гэтаму часу меў высокія званні і высокі аўтарытэт. Ён не заводзіў асобнага кабінета, рэдка калі сядзеў за сваім рэдактарскім сталом. Звычайна, калі трэба было тэрмінова што-небудзь прачытаць, — садзіўся за доўгі стол без шуфлядаў, прыстаўлены да яго стала, дзе сядзелі і мы, — і чытаў. Рукапісы буйных твораў звычайна браў дадому. Ніколі не хітрыў, калі трэба было гаварыць аўтару ў вочы горкую праўду, не перакладаў усю адказнасць на аддзелы. І ад гэтага яго пісьменніцкі і рэдактарскі аўтарытэт не толькі не зніжаўся, а, наадварот, вырастаў.

Прызнаны паэт, ён вельмі сціплы ў адносінах да ацэнкі сваёй працы. Не дазваляў сабе ніякай палёгкі. У рэдакцыі існавала нават няпісанае правіла, усталяванае зноў жа самім рэдактарам, не адзначаць ацэначнымі артыкуламі яго творчасць. Адзінае, што дазваляў сабе, — гэта друкавацца ў сваім часопісе. Свае юбілейныя даты таксама адзначаў своеасабліва: адпаведна колькасці год даваў у нумар гэтакую ж колькасць сваіх новых вершаў».

Аляксандр Пушкін пісаў: «Всякая строчка писателя становится драгоценной для потомства, нас невольно поражает мысль, что рука, начертавшая эти смиренные цифры, эти незначащие слова, тем же почерком и быть может тем же самым пером написала великие творения — предмет наших изучений и восторгов…» Аўтограф Максіма Танка — і на іншых кнігах, што захоўваюцца ў музейным кнігазборы Алеся Бачылы. З першых «танкаўскіх» аўтографаў — надпіс на кнізе «След бліскавіцы» (1957): «Дарагому другу Алесю Бачылу ад шчырага сэрца — Максім Танк. 21 / Х. 57 г. Мінск». У 1962 г. выходзіць новая кніга вершаў — «Мой хлеб надзённы». 19 лютага 1962 г. Максім Танк дорыць зборнік свайму сябру з такімі словамі: «Дару табе, дарагі дружа Алесь, гэты невялічкі зборнік сваіх вершаў як верны сродак ад бяссонніцы…» Не магу ўтрымацца, каб не працытаваць аднайменны верш з прыцягальнай, напоўненай магнетызмам светлага жыцця, яркай паэтычнай кнігі — «Мой хлеб надзённы»:


*Алесь Бачыла, Пімен Панчанка, Рыгор Няхай.*

*Непакой за цябе, зямля мая,*
*За твой ураджай, спакойны сон,*
*За дрэва кожнае ў гаях,*
*За весніх песень перазвон,*
*Непакой за цябе, зямля мая, —*
*Мой хлеб надзённы.*

*Часам ён горкі ад пылу быў,*
*Часамі салёны ад слёзаў быў,*
*Часамі гарачы ад пораху быў,*
*Але і салодкі ад дружбы быў*
*Мой хлеб надзённы.*

*І не кладзіце мне хлеб другі*
*У кайстру, калі я ў дарогу іду,*
*На стол, калі бяседу вяду,*
*На сэрца, калі на ім рукі складу.*

Творчае сяброўства, творчая радасць, светлы характар зносін, пажаданне поспехаў адзін аднаму — вось тыя камяні, той фундамент, што мацавалі і мацуюць сапраўдную паэзію, яе развіццё. Аўтографы, лаканічныя сяброўскія надпісы — частка такога сяброўства, такой радасці і светласці. У калекцыі кніг з аўтографамі, адрасаванымі А. Бачылу, у Пухавіцкім музеі — паэтычныя зборнікі Аркадзя Куляшова, Аркадзя Русецкага, Адама Русака, Сяргея Грахоўскага, Ніла Гілевіча, Браніслава Спрынчана, Дзмітрыя Кавалёва, Еўдакіі Лось, Васіля Віткі, Анатоля Вярцінскага, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Астрэйкі, Кастуся Кірэенкі, Васіля Зуёнка, Рамана Тармолы, Міколы Аўрамчыка, Пятра Прыходзькі, Уладзіміра Корбана… З павагай ставіліся да Алеся Бачылы празаікі, літаратуразнаўцы, крытыкі, мовазнаўцы. Пра гэта сведчаць аўтографы Івана Мележа, Алеся Адамовіча, Рыгора Шкрабы, Фёдара Янкоўскага, Лідзіі Арабей, Аляксея Кулакоўскага, Янкі Брыля, Яна Скрыгана, Вячаслава Адамчыка, Арсеня Ліса…

Хацелася б звярнуць увагу яшчэ на адну акалічнасць. Алесь Бачыла з вялікай павагай ставіўся да творчасці папярэднікаў, шанаваў літаратурныя традыцыі. У кнізе паэта «Крыло неспакою» (1985), якая пабачыла свет ужо пасля смерці Алеся Мікалаевіча, А. Бачыла ўспамінае пра Якуба Коласа, Міхася Лынькова, Рыгора Шырму. Сярод кніг, падараваных творцу, — і зборнікі маладзейшых калег па літаратурным цэху. На кнізе вершаў «Лірычны вырай» (1965) Янка Сіпакоў пакінуў такія словы: «Алесю Мікалаевічу — дарагому чалавеку ад усяе-ўсяе шчырасці…» А ў кнізе «У поўдзень, да вады» чытаем: «Шаноўнаму Алесю Мікалаевічу Бачылу — вельмі шчыра, з даўняю павагай, шчыра віншуючы з надыходзячым Новым годам. Ад сэрца — Янка Сіпакоў. 26 снежня 1977». Свае кнігі дарылі яму Міхась Стральцоў, Раіса Баравікова.

У першым зборніку Р. Баравіковай «Рамонкавы бераг» (1974), падараваным Алесю Бачылу, чытаем: «Паважанаму Алесю Мікалаевічу шчыра і з вялікай удзячнасцю за першы водгук на гэтую невялікую першую кніжку. Аўтар. 28 / Х — 74 г.»

Выдадзеную ў Маскве сваю кнігу «Мир Купалы» легендарны беларускі крытык Рыгор Бярозкін падараваў аўтару песні «Радзіма мая дарагая» з такімі словамі: «Алесю Бачылу — добраму паэту і добраму знаўцу паэзіі — з нязменнай сімпатыяй. Р. Бярозкін. 29. XI. 73 г.».

«Крыло неспакою» — так назваў Алесь Бачыла сваю кнігу артыкулаў, успамінаў, публіцыстычных нататак, якую сам склаў незадоўга да смерці. На крылах неспакою жыў, лётаў у небе беларускай паэзіі Алесь Бачыла. Сведчаць пра тое і аўтографы на кнігах, падараваных яркаму, шчыраму мастаку слова.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**фота з архіва Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея**

# У горадзе губернскім

У красавіку гэтага года споўнілася 95 гадоў з дня ўтварэння Гомельскай губерні. Гэтая падзея адыграла важную ролю ў жыцці горада і рэгіёна ў цэлым. Узрос статус Гомеля (да 1919 года — павятовы цэнтр), былі сфарміраваны губернскія органы кіравання, пачалі працу новыя ўстановы адукацыі, аховы здароўя, культуры, адбыліся значныя змены ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы.

Менавіта пра гэта і распавядае выстаўка «Гомельская губерня-95», якая адкрылася ў дзяржаўнай гісторыка-культурнай установе «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль». Прадстаўлены ў экспазіцыі перыяд адлюстроўвае стан губерні ў 1919 — 1926 гг. У гісторыі Беларусі гэта час фарміравання не толькі дзяржавы, якая абапіралася на новую ідэалагічную аснову, але і новых грамадскіх ды эканамічных адносін. Усе агульнадзяржаўныя тэндэнцыі знайшлі адлюстраванне ў пэўных гістарычных падзеях, што адбываліся на тэрыторыі Гомельскай губерні.

На выстаўцы можна ўбачыць дакументы, фотаздымкі, прадметы таго часу з фондаў музея Гомельскага палацава-паркавага ансамбля, а таксама копіі фота з архіва газеты «Гомельская праўда». Яны сталі ілюстрацыямі для кнігі І. Такоевай «Гомельская губерня. Як усё пачыналася. Невядомыя старонкі», прэзентацыя якой ладзілася ў межах выстаўкі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

***Год гасціннасці***

# Аматарам даўніны

У Кармянскім раёне прайшоў семінар, прысвечаны старадаўнім народным святам і абрадам, традыцыйным культурным мерапрыемствам, іх пазіцыяніраванню як аб'ектаў турыстычнага бізнесу.

Удзельнікі перш за ўсё закранулі брэндавыя мерапрыемствы: раённае свята шансону «Душа ў песні», агляд-конкурс «Карагод абрадаў», а таксама «Каляды», якія адмыслова святкуюць у вёсцы Акцяброва. Няменшую цікавасць уяўляюць і аб'екты прыроды: святая крыніца і «Шкаўрэнава крыніца» каля вёсак Навасёлкі і Багданавічы, з якімі звязаны мясцовыя легенды. Для тых, хто цікавіцца народнай медыцынай, будзе карысна наведаць куток народнай медыцыны ў Баравабуцкім сельскім доме культуры.

Зразумела, што заўсёды будзе запатрабавана турыстамі свята з «мястэчковымі» прысмакамі. Кіраўнік аматарскага аб'яднання «Гаспадынька» Таццяна Цімашэнка падзялілася сакрэтамі традыцыйнай кухні, якая выкарыстоўваецца ў святах і абрадах Кармяншчыны.

Даведаліся клубныя работнікі і пра дзейнасць калег па развіцці этнатурызму на Гомельшчыне. А таксама сталі ўдзельнікамі відэапрэзентацыі па афармленні куткоў народнага побыту і складанні турыстычнага маршруту сваёй мясцовасці.

Такія семінары, безумоўна, спрыяюць вывучэнню вясковай культуры, дапамагаюць знаёміць з ёю аматараў даўніны і развіваць на гэтай аснове новыя формы культурнага адпачынку.

**Людміла МЕЛЬНІКАВА,**
**вядучы метадыст па народных традыцыях і абрадах Гомельскага абласнога цэнтра народнай творчасці**

***З пошты «ЛіМа»***

# Незабыўнае

Кожны раз, калі бываю ў сталічнай кнігарні «Веды», што на рагу вуліц Энгельса і Маркса, абавязкова крыху пастаю ля мемарыяльнай дошкі ў гонар слыннага беларускага паэта Пятра Глебкі. Гэта дарагі для мяне чалавек, з ім я неаднаразова сустракаўся ў школьныя гады.

Калі ў Мінск прыязджаў мой дзядзька Васіль Калеснікаў, то да нас заўсёды заходзіў Пятро Глебка. Яны ведалі адзін аднаго яшчэ з 30-х гадоў. Разам хадзілі ў госці да Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, каб паслухаць іх новыя творы. Сярод слухачоў былі Змітрок Бядуля, Янка Скрыган, Пятрусь Броўка, Міхась Лынькоў, Васіль Вітка… Дзядзькаў сябар шмат расказваў пра Паўлюка Труса. Таму заўсёды, калі наведваю Вайсковыя могілкі, падыходжу да магілы паэта.

Васіль Калеснікаў вучыўся да вайны ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Але яго арыштавалі па даносе і саслалі ў Комі АССР. У 1950-я гады з дзядзькі знялі ўсе абвінавачванні. Працаваў настаўнікам, быў дырэктарам школы ў Віцебскім раёне.

**Уладзімір ГОЛУБЕЎ**

# Карнавал у Верхнім горадзе

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Тэатр Вячаслава Іназемцава «*Ін-Жэст*» паўтарыў на форуме сваю акцыю «Чужыя», падчас якой на вуліцы з'явіліся восем велізарных фігур на хадулях. Артысты інтэрактыўнага тэатра *Moustache* сталі паштальёнамі: адпраўлялі разам з мінчанамі незвычайныя лісты і пасылкі. А тых, хто заўсёды чакаў ліст са школы чарадзейства і вядзьмарства Хогвартс, імгненна зацікавіў «Спектакль пра Гарыча» эксперыментальнага тэатра «Галава-нага» — некалькі патаемных гісторый герояў, на якіх неяк паўплывалі кнігі пра Гары Потэра. «Сярэднявечны балаган» яшчэ дашэкспіраўскіх часоў з жанглёрамі, акрабатамі і музыкамі паказаў «Махлярскі тэатр ДыЛрыза» — адзіны ў Беларусі калектыў, што рэканструюе спектаклі, пра якія можна прачытаць не ў кожнай гістарычнай кнізе. «Баль для ўсіх» арганізавала «Майстэрня Ураджаняў» разам са студыяй гістарычнага танца «Версаль». Гледачы змаглі прайсці кароткі курс танцавальнай падрыхтоўкі, бальнага і дуэльнага этыкету мінчан XIX стагоддзя.



*Фота Пятра Шчытнікава*

Віцебскі тэатр «Кола» стварыў перформанс «Форум-стрыт», дзе аснова спектакля — пэўная сацыяльная праблема, рашэнне якой мог прапанаваць любы глядач, заняўшы месца акцёра. Прыватны тэатр лялек «Дом сонца» сабраў свой маленькі «Вулічны аркестрык» — кельцкую арфу, гітару, перкусію і некалькі лялечных музыкантаў, якія сыгралі на патаемных струнах глядацкай душы колькі добрых мелодый. Тэатральная майстэрня «Студыёзы» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў намалявала «Жывыя карціны»: «Чорны квадрат» Казіміра Малевіча, «Таемную вячэру» Леанарда да Вінчы, «Апошні дзень Пампеі» Карла Брулова, «Суд Парыса» Пітэра Рубенса.



Сёлета на форуме былі прадстаўлены не толькі тэатральныя праекты. Напрыклад, супрацоўнікі дзіцячага выдавецтва «Сібіліна» проста на вуліцы чыталі дзецям казкі і раскрывалі сакрэты стварэння кніжак пра ружовых слонікаў. У межах форуму вулічных тэатраў у беларускай сталіцы прайшоў і першы Мінскі ларп-фестываль — імправізацыйных гульні, дзе ўдзельнікам раздаюцца пэўныя ролі. Ён адбыўся ў Цэнтры сучасных мастацтваў, куды таксама можна было зазірнуць на бясплатныя лекцыі па тэатры, майстар-класы па жангліраванні, інтэрактыўным тэатры, перформансе, працы над вобразамі жывых скульптур і па пластыцы мяккага цела ад выкладчыкаў сталічных ВНУ і ўдзельнікаў форуму. Адкрытую лекцыю пра вулічнае мастацтва ў Еўропе і Францыі прачытала госця з Парыжа Фларыяна Габер — прафесійны крытык вулічных мастацтваў, аўтар дзвюх манаграфій па гісторыі вулічнага мастацтва.

Паміж спектаклямі гледачы не сумавалі. Кожны меў магчымасць звярнуць увагу на штукароў, жанглёраў, эквілібрыстаў, спевакоў і танцораў — удзельнікаў яшчэ аднаго фэсту вулічных мастацтваў *Grand Teatro*. Ноччу 10 мая тэатральнае свята прадоўжылася ў парку забаў Dreamland, а завяршылася 11 мая, калі адна са сцен ратушы Верхняга горада ператварылася ў экран вулічнага кінатэатра.

**Таццяна ШЫМУК**

# Прыступка першая

Другі фестываль дзіцячых тэатральных калектываў «Вясёлая лесвічка» адбыўся ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі.

Форум скіраваны на падтрымку і заахвочванне таленавітых дзяцей і падлеткаў, далучэнне моладзі да традыцый беларускай тэатральнай культуры.

У фестывалі ўзяло ўдзел восем дзіцячых тэатральных калектываў са сталічных школ, гімназій і цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі «Эўрыка». Ацэньвалі выступленні юных акцёраў вядомыя дзеячы беларускага мастацтва. У 25-хвілінных спектаклях маленькія тэатралы гаварылі пра дабро і зло, каханне, нянавісць і сапраўднае сяброўства. Арганізатары спадзяюцца, што «Вясёлая лесвічка» можа стаць прыступкай для ўзыходжання маладых акцёраў на прафесійную сцэну.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

# Дарослым — Краіну Цудаў



*Вольга Котава «Кот Бегемот».*

У беларускім Палацы шахмат і шашак адбылася выстаўка «Аліса ў Краіне Цудаў». Тут былі прадстаўлены жывапіс, графіка, фотаздымкі, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, скульптура, рэпрадукцыі сучасных мастакоў Беларусі і Літвы па матывах знакамітай казкі Льюіса Кэрала.

У экспазіцыйных работах — чароўная атмасфера. Жывапісныя карціны паяднала тонкая каляровая гама — ад вяршкова-кафейных да зялёна-блакітных, сонечных тонаў. Флаконічкі з парфумай, размешчаныя замест шахмат на шахматнай дошцы, каля рэпрадукцый — рознакаляровыя бутэлечкі з надпісам «Выпі мяне». «Гасцямі» чароўнай экспазіцыі сталі скульптуры мастачкі Вольгі Котавай «Кот Бегемот» і «Кот Васіль».

Арганізатары выстаўкі паказалі наведвальнікам шлях у таямнічы свет, краіну цудаў, у якой знойдзецца месца як дзецям, так і дарослым.

**Вольга РОПАТ, фота аўтара**

# «Жывы» аўкцыён

У Мінску ўпершыню прайшоў аўкцыён па продажы карцін вядомага расійскага жывапісца Нікаса Сафронава. Самым дарагім лотам стала «Сонечная раніца дзесьці ў Еўропе», набытая адным з калекцыянераў за 50 тысяч еўра.

Карціна выканана ў стылі «dream vision», які прыдумаў расійскі мастак. Па самай нізкай цане (за 20 тысяч еўра) пайшла работа «Заяц — сімвал Алімпіяды ў Сочы». Найбольшую цікавасць удзельнікаў аўкцыёну выклікаў партрэт славутага кіраўніка ансамбля «Песняры» Уладзіміра Мулявіна, які быў напісаны мастаком у 1995 годзе. Цана на палатно падчас таргоў узнялася ў шэсць разоў — з 5 да 32 тысяч еўра.

Усяго на аўкцыёне было прададзена 20 з 23 карцін Н. Сафронава. Сярэдні кошт лотаў — 30 тысяч еўра. «Узровень продажаў склаў 87 працэнтаў, што значна перавышае сярэдні паказчык для такога кшталту мерапрыемстваў. Падчас таргоў было шмат спрэчак і зацятай барацьбы, што з'яўляецца неад'емным атрыбутам «жывога» аўкцыёну», — зазначыў дырэктар аўкцыённага дома «Парагіс» Андрэй Бярэзін.

Удзел узялі калекцыянеры з Беларусі, Расіі, Украіны, Германії і Францыі. «Большая частка знаўцаў жывапісу з Беларусі — сябры «А-Клуба» ЗАТ «Альфа-Банк» альбо ўладальнікі буйнога бізнесу. А-Клуб як фармат абслугоўвання прадугледжвае канфідэнцыяльнасць і прыватнасць, аднак мы можам дазволіць сабе браць фінансавы ўдзел у арганізацыі эксклюзіўных імпрэз, запрашаючы сваіх кліентаў. Аўкцыён па продажы карцін вядомага расійскага мастака Нікаса Сафронава — першае і эксклюзіўнае для Мінска мерапрыемства», — адзначыў кіраўнік А-Клуба Аляксей Мацукін.

— Гэта было грандыёзна, такога ажыятажу мы не чакалі! Калі б на аўкцыён было выстаўлена не 23, а 100 работ расійскага мастака, то вынік уразіў бы яшчэ больш. Калі шчыра, то мы нават не змаглі цалкам задаволіць попыт калекцыянераў і аматараў таленту Нікаса Сафронава, — распавёў Андрэй Бярэзін.

Сам спадар Сафронаў адзначыў, што яго карціны на аўкцыёне набывалі як прыватныя асобы, так і кампаніі. Частка атрыманых сродкаў будзе накіравана на дабрачыннасць: перададзена беларускім праваслаўным храмам і дзіцячым дамам. Жывапісец распавёў пра жаданне набыць невялікую сядзібу ў Віцебскай вобласці, побач з домам-музеем Ільі Рэпіна, каб пісаць карціны і ў нашай краіне.

Аўкцыёны падобнага маштабу ў Беларусі будуць праводзіцца рэгулярна. Гэта дасць магчымасць не толькі ўлічыць пажаданні аматараў мастацтва ў краіне, але і павысіць узровень беларускага арт-рынку. Арганізатарам мерапрыемства выступіў аўкцыённы дом «Парагіс», партнёрам — «А-Клуб» ЗАТ «Альфа-Банк».

**Таццяна ШЫМУК**

ЛіМ
**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2505.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 15.05.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1977.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
14019